*Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі*

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

**№ 14 (4763) 4 красавіка 2014 г.**

## *Пункцірам*

✔ Старшыня Вышэйшага Дзяржаўнага Савета Саюзнай дзяржавы, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў беларусаў і расіян з нагоды Дня яднання народаў Беларусі і Расіі. Прэзідэнт падкрэсліў, што ў гэтым годзе спаўняецца 15 гадоў з дня падпісання Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы, якая з'яўляецца прыкладам і асновай аб'яднальных працэсаў на постсавецкай прасторы. Беларуска-расійскія стасункі прайшлі выпрабаванне часам. «Нашым адносінам — умацоўвацца і развівацца», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.

✔ Кіраўнік дзяржавы даручыў ураду стварыць сістэму сацыяльнай падтрымкі выпускнікоў аспірантуры. Падчас нарады з вядучымі вучонымі па пытаннях перспектыў развіцця навукі Прэзідэнт канстатаваў, што цікавасць моладзі да даследаванняў не слабее, аднак усё менш становіцца жадаючых зрабіць навуку сваёй прафесіяй, што ў многім звязана з невысокімі даходамі вучоных. «Вырашаць гэту праблему трэба комплексна», — адзначыў Прэзідэнт.

✔ Аляксандр Лукашэнка павіншаваў спявачку Лайму Вайкуле з 60-гадовым юбілеем. «На беларускай зямлі Вас ведаюць і цэняць як цудоўную спявачку, разумнага, энергічнага і моцнага духам чалавека, чыя творчасць дорыць людзям добры настрой», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Беларускі культурны рух «Кліч» будзе створаны ў Малдове. Такое рашэнне прынята ў Кішынёве на ўстаноўчай канферэнцыі грамадскага аб'яднання, у якой узялі ўдзел прадстаўнікі пасольства Беларусі ў Малдове, Беларускай суполкі Малдовы, асацыяцыі беларусаў муніцыпія Кішынёў «Беларусь», іншых беларускіх этнакультурных арганізацый, а таксама Таварыства дружбы Малдова-Беларусь. Рух «Кліч» вырашана стварыць перш за ўсё для актывізацыі работы з этнічнымі дзецьмі і моладдзю, якія пражываюць у гэтай краіне.

✔ У планетарыі Бібліятэкі Александрына горада Александрыі адкрыты бюст Юрыя Гагарына работы беларускага скульптара Івана Міско. Ініцыятыва належыць егіпецкаму прадпрымальніку Саміру Гамаа. У адкрыцці бюста, прымеркаваным да 80-годдзя з дня нараджэння Юрыя Гагарына, узялі ўдзел пасол Беларусі ў Егіпце Сяргей Рачкоў, губернатар правінцыі Александрыя Тарык Махдзі, пасол Расіі ў Егіпце Сяргей Кірпічэнка, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса і грамадскасці.

✔ Паводле намесніка міністра замежных спраў Беларусі Валянціна Рыбакова, на месцы былога лагера смерці Трасцянец будзе пабудаваны мемарыял памяці. Праект рыхтуе рабочая група ў складзе архітэктараў «Мінскпраекта» і творчай майстэрні Леаніда Левіна. Тут, у адным з буйнейшых лагераў смерці ў Еўропе, загінула больш як 200 тысяч вязняў. У чэрвені плануецца закладка капсулы з імёнамі ахвяр лагера ў фундамент помніка.

**Падрыхтавала**
**Іна ЛАЗАРАВА**



*Марк Шагал «Гадзіннік на палаючым небе», 1947 — 1950 гг.*

**Чытайце на стар. 16** ▶



7

Літаратура на абцасах



12

Куды прыводзяць мары?



13

Пабачыць Сафронава…



14

У тэатр!

# Да ўвагі творцаў!

Арганізацыйны камітэт па правядзенні штогадовага рэспубліканскага конкурсу «Лепшы твор 2013 года» паведамляе аўтарам, што іх творы першачаргова прымаюцца да разгляду Мінскім гарадскім і абласнымі аддзяленнямі Саюза пісьменнікаў Беларусі да 1 мая 2014 года.

*Фоташтрых*

*У Мемарыяльнай зале Саюза пісьменнікаў Беларусі адбылася сустрэча кіраўніцтва СПБ са старшынёй Калужскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі, вядучым расійскім паэтам і дзеячам культуры Вадзімам Цярохіным. Старшыня беларускай пісьменніцкай арганізацыі Мікалай Чаргінец, першы сакратар Генадзь Пашкоў і сакратар Георгій Марчук абмеркавалі з расійскім калегам перспектывы сумеснай дзейнасці літаратараў дзвюх краін. Мікалай Чаргінец і Вадзім Цярохін падпісалі дамову аб супрацоўніцтве творчых суполак.*



*Фота Кастуся Дробава*

# Паэт Космасу

У Доме дружбы адбыўся вечар, прымеркаваны да 60-годдзя паэта і перакладчыка Міколы Мятліцкага. Павіншаваць яго завіталі сябры-літаратары, прадстаўнікі пасольстваў.

Высокую годнасць творчасці юбіляра падкрэсліў пісьменнік Алесь Бадак, назваўшы Міколу Мятліцкага «паэтам Космасу»: «Вакол цябе ад самага пачатку былі выбітныя асобы — Іван Шамякін, Іван Мележ… Яны дапамагалі ўзняцца ў Космас паэзіі, узнесці ў яго родную зямлю і родную вёску Бабчын».

Сапраўдны подзвіг Міколы Міхайлавіча — і шматлікія пераклады. Ён — адзін з найбольш актыўных стваральнікаў серыі кніг «Сугучча сэрцаў», прысвечанай духоўным сувязям літаратуры Беларусі і краін СНД, укладальнік і адзіны (!) перакладчык анталогіі «Пад крыламі Дракона. Сто паэтаў Кітая».

Міхась Пазнякоў, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, урачыста перадаў М. Мятліцкаму дыпломпасведчанне аб прысваенні звання Ганаровага члена Саюза пісьменнікаў Беларусі. Юбіляр мае і іншыя, не менш гучныя статусы, з'яўляючыся лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, лаўрэатам спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва.

Нягледзячы на «перавітасць палескім смуткам» (словы з прысвячэння-падарунка юбіляру ад М. Пазнякова), Мікола Мятліцкі — чалавек надзвычай жыццярадасны, сардэчны, шчыры. «Паэзія ўсіх краін гучыць на адной мове — мове пачуццяў, — падкрэсліў творца, дзякуючы за віншаванні. — Праз пераклады для мяне прыадкрыўся цэлы свет. А з іншага боку, мы ўсе хочам, каб і нашу Радзіму, нашу паэзію ведалі не толькі тут і побач, але і за мяжой».


*Фота Кастуся Дробава*

*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Казахстана ў Рэспубліцы Беларусь Ергалі Булегенаў віншуе Міколу Мятліцкага з юбілеем.*

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Паміж Дняпром і Сангарскім пралівам

Міжнародная выстаўка «Іосіф Гашкевіч — дыпламат, вучоны-арыенталіст» праццуе ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь. Экспазіцыя, прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння славутага беларуса, сабрала пад час адкрыцця ў адной зале гасцей з трох краін: Расіі, Беларусі і Японіі.

Іосіф Гашкевіч, які нарадзіўся ў 1814 годзе ў Рэчыцкім павеце Мінскай губерні, стаў першым расійскім консулам у Японіі, 10 гадоў правёў з духоўнай місіяй у Кітаі, пільна вывучаў гісторыю, культуру і мовы краін Усходу. У японскім горадзе Хакадатэ па яго ініцыятыве была адчынена руская школа, а пры консульстве — бальніца, дзе сотні бедных жыхароў краіны маглі атрымліваць бясплатную дапамогу. Вынікам яго знаходжання ў Кітаі сталі навуковыя даследаванні, а ў Японіі — стварэнне першага японска-рускага слоўніка і кніга «Карані японскай мовы». Выдатны дзяржаўны дзеяч ператварыўся ў праведніка міру, сяброўства і духоўнасці. Гэтыя пачуцці не згасаюць паміж народамі і сёння.

Паводле Ніны Калымага, намесніка дырэктара Нацыянальнага гістарычнага музея, сапраўдных артэфактаў, якія належалі сям'і Гашкевічаў, на жаль, не захавалася. Нягледзячы на гэта, сабраныя ў музеі экспанаты поўнасцю адлюстроўваюць атмасферу, у якой жыў вучоны. Унікальныя дакументы, фотаздымкі, пісьменніцкія прылады, японскія лялькі і адзенне належаць перыяду, які стаў для І. Гашкевіча часам працоўных і творчых пошукаў. На выстаўцы можна знайсці і царкоўныя рэчы, бо Гашкевічы — род святароў, да якога належыць таксама Святы праведны Іаан Кармянскі. Дыпламат захапляўся культурай замежжа, але заўсёды заставаўся патрыётам сваёй Радзімы. Дарэчы, юбілей Іосіфа Гашкевіча быў унесены ЮНЕСКА ў Каляндар памятных дат на 2014 — 2015 гг.

Сярод тых, хто браў удзел у падрыхтоўцы выстаўкі, — прадстаўнікі міністэрстваў і музеяў Беларусі, Пасольства Японіі ў нашай краіне, кампаніі *Japan Tobacco International*, гісторыкі, даследчыкі і калекцыянеры.

**Марыя ВОЙЦІК**

*ТэлеЛіМ*

# Ні дня без...

**На наступным тыдні тэлеканал «Беларусь 3» прапануе сваім гледачам далучыцца да скарбаў нашай мовы, літаратуры і культуры.**

7 красавіка ў 9.25 і 22.00 вядучы праграмы «Дыя@блог. Пра мову» Навум Гальпяровіч запрасіць паразважаць пра ролю беларускай мовы ў справе яднання беларусаў свету знакамітага даследчыка, доктара філалагічных навук, прафесара, ганаровага старшыню Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адама Мальдзіса. Адам Восіпавіч распавядзе пра колькасць беларусаў, якія жывуць за мяжой, і пра новы даведнік «Сузор'е блізкага памежжа. Беларусы, народжаныя ў суседніх краінах».

Пра сучасную літаратуру нашай краіны і праблемы маладых літаратараў з вядучымі «Дыя@блогу. Пра літаратуру» Таццянай Сівец і Стэлай Чырковай пагутарыць малады творца Алесь Бараноўскі. Далучыцца да абмеркавання можна будзе 8 красавіка ў 9.45 і 22.00.

У той самы дзень у 19.30 пачынаецца паказ серыяла «Маленькія трагедыі» паводле Аляксандра Пушкіна. Галоўныя ролі выконваюць славутыя акцёры мінулага стагоддзя Інакенцій Смактуноўскі, Валерый Залатухін і Уладзімір Высоцкі.

9 красавіка ў 9.45 і 22.00 вядучая «Дыя@блогу. Пра прыгожае» Крысціна Смольская прапануе віртуальна завітаць на выстаўку «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі» і даведацца пра яе адметнасці ў яе куратара і аўтара канцэпцыі Уладзіміра Шчаснага.

Вечар 13 красавіка будзе прысвечаны заслужанаму артысту РСФСР, народнаму артысту Беларусі Уладзіміру Гасцюхіну. Дзень нараджэння наш зямляк сустракаў на сцэне Тэатра-студыі кінаакцёра, дзе праявіў свой рэжысёрскі і акцёрскі талент у музыкальна-паэтычнай кампазіцыі «Ганна Снегіна». Як неадназрова прызнаваўся акцёр, паэма «Ганна Снегіна» — яго любімы твор з творчасці Сяргея Ясеніна. Тэлеверсію кампазіцыі глядзіце ў 21.10. Пасля спектакля, у 22.10, можна будзе пабачыць экранізацыю п'есы Максіма Горкага «На дне» — мастацкі фільм «Без сонца» з удзелам таго ж Уладзіміра Гасцюхіна.

**Кіра МУРАЎСКАЯ**

# Сур'ёзна, кур'ёзна

**Выстаўка «СпАRТыўныя ўсмешкі: карыкатуры, гумарыстычныя малюнкі вядомых мастакоў-карыкатурыстаў "Вожыка"» адкрылася 1 красавіка ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**

Арганізатары мерапрыемства — Міністэрства інфармацыі і РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» — упэўнены: гэтая экспазіцыя будзе цікавая для ўсіх прыхільнікаў спорту і здаровага ладу жыцця. Сярод яе аўтараў — вядомыя беларускія мастакі-карыкатурысты Мікола Гіргель (супрацоўнік газеты «Рэспубліка»), Алег Карповіч («СБ. Беларусь сегодня»), Алег Папоў («Народная газета»), Аляксандр Каршакевіч (часопіс «Вожык»), Сяргей Волкаў (член Беларускага саюза мастакоў, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР), Аркадзь Гурскі, Алег Гуцол, Пётр Козіч, Вікенцій Пузанкевіч, Уладзімір Чуглазаў, Міхась Даніленка, Павел Гарадцоў і многія іншыя.

Вядома, спорт — гэта сур'ёзна. Але як у чалавечым жыцці, так і ў жыцці спартыўным здараецца шмат кур'ёзных выпадкаў, камічных эпізодаў, нечаканых казусаў. А калі такое бачаць мастакі-карыкатурысты, то ніяк не могуць заставацца раўнадушнымі і бяруцца за аловак.

Нашай краіне выпаў гонар прымаць у 2014 годзе Чэмпіянат свету па хакеі. «Вожык» гатовы падтрымаць бадзёры дух ігракоў і балельшчыкаў вясёлымі малюнкамі.




**Міра ІЎКОВІЧ**

# Словы ды музыка


Фота Дзмітрыя Пятровіча

*Выступае Вадзім Спрынчан.*

Мінскія паэтычныя чытанні, якія традыцыйна двойчы на год ладзіць Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі, паяднालі прадстаўнікоў розных пакаленняў: і сталых творцаў, і моладзь. Сустрэча — 15-я па ліку і прымеркаваная да Сусветнага дня паэзіі — адбылася ў Цэнтральнай мінскай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы.

У чытальнай зале кніжніцы гучалі не толькі вершы, але і песні пад акампанемент гітары ў выкананні Сяргея Трахіменка і Ганны Чумаковай. Публіцы таксама прадставілі свае вершы Навум Гальпяровіч, Анатоль Аўруцін, Валерый Максімовіч, Вадзім Спрынчан, Людміла Клачко, Лізавета Палеес, Дзмітрый Дземідовіч, Вольга Сакалова, Дзмітрый Пятровіч, Іна Фралова, Яна Явіч і старшыня МГА СПБ, вядучы імпрэзы Міхась Пазнякоў.

Адметна, што падчас сустрэчы аматары высокага слова пісьмова адказвалі на пытанне: «Што для вас паэзія?» Аўтары лепшых запісак напрыканцы былі ўзнагароджаны кнігамі ўдзельнікаў Мінскіх паэтычных чытанняў з аўтографамі аўтараў.

**Арына КРАЙКО**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**6 красавіка** — на міжнацыянальнае свята «Свет маці», якое адбудзецца ў Рэспубліканскім цэнтры нацыянальных культур (вул. Чычэрына, 19). Пачатак а 15-й гадзіне.

**7 красавіка** — на юбілейны творчы вечар пісьменніка, паэта-песенніка Івана Юркіна, які пройдзе ў Клубе імя Дзяржынскага (запрашальнік можна атрымаць у аддзяленні СПБ на вул. Фрунзэ, 5). Пачатак а 17-й гадзіне.

**9 красавіка** — на літаратурна-мастацкі праект «Творчае сяброўства». У праграме — паэтэса і бард Аліна Легастаева і яе сябры-пісьменнікі. Імпрэза адбудзецца ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа (пр-т Незалежнасці, 66а). Пачатак а 16-й гадзіне.

**10 красавіка** — на фестываль маладой паэзіі, які адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 17 (Лагойскі тракт, 25). Пачатак а 18-й гадзіне. Даведкі па тэлефоне: 335-28-18.

# Тыдзень дзіцячай кнігі

Кожны дзень вясновых канікул калектыў дзіцячай бібліятэкі № 15 г. Мінска ператварыў для маленькіх наведвальнікаў у сапраўднае свята. Так, у межах тыдня дзіцячай кнігі прайшлі прэзентацыі кніг пісьменнікаў Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Ніны Галіноўскай «Калі я шчаслівы», «Звяры ў трамваі» і кніжнай серыі «Свет вакол нас» Міхася Пазнякова.

Пісьменнікі чыталі вершы, загадвалі загадкі, якія выклікалі ў школьнікаў асаблівую цікавасць, таксама як і смяшынкі.

На развітанне юныя чытачы атрымалі падарункі і кнігі з аўтографамі пісьменнікаў.

**Ганна СТАРАДУБ**

# Нашчадкі таямнічых вёсак

Чарговая сустрэча ў межах паэтычна-міфалагічнага праекта «Сакральная Беларусь» у бібліятэцы № 15 імя Цёткі была прысвечана вёсцы. Беларуская вёска — гэта цэлы свет, які можна і трэба вывучаць і даследаваць.

Вадзім Клімовіч, ураджэнец вёскі Пліса, што на Глыбоччыне (першыя летапісныя згадкі пра яе датаваны 1507 годам), выканаў песні на вершы Янкі Купалы («Вёска», «А хто там ідзе?») і Міколы Кандратава («Маю гонар…»). На яго думку, самы каштоўны скарб кожнай вёскі — яе людзі.

Паэта, перакладчыка, публіцыста Сяргея Сыса, малая радзіма якога — вёска Пракісель Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці, у дзяцінстве, якое праходзіла на беразе Дняпра, настолькі ўразілі залатыя яшчаркі-слівні ў садзе (ці мядзянкі, як іх яшчэ называюць), што ён напісаў верш «Сад вогненных слівняў». Кранальна прагучаў яшчэ адзін паэтычны твор, у выкананні яго дачкі Станіславы, — верш «Пчолка» Янкі Журбы.

Ірына Клімковіч, дырэктарка этнагістарычнага цэнтра «Явар», нарадзілася на далёкім Сахаліне, але пабачыла мноства беларускіх вёсак, у кожнай з якіх ёсць унікальныя звычаі і традыцыі. Распавяла яна і пра ручнікі-абыдзённікі (іх вышывалі ці ткалі грамадой на асаблівы выпадак), і пра парог хаты як сакральную мяжу, і пра калядоўшчыкаў і валачобнікаў, што ўспрымаліся нашымі продкамі як госці з іншага свету.

Гледачы атрымалі асалоду ад народных песень у выкананні Юліі Літвінавай. Паэт і перакладчык Віктар Шніп (родная для яго з'яўляецца вёска Пугачы Валожынскага раёна Мінскай вобласці), падзяліўся з прысутнымі ўспамінамі пра сваё дзяцінства і прадставіў публіцы ўласныя вершы «Гаршчок», «Плот», «Падкова», «Сячкарня».

Падчас правядзення праекта склалася завядзёнка: у яго тэмах сягаць у гісторыю. Гэтым разам Яраш Малішэўскі працытаваў дакумент 400-гадовай даўніны пра сварку паміж суседзямі ў вёсцы, а пасля публіка мусіла здагадацца, хто з удзельнікаў спрэчкі меў рацыю…

Адметна, што ў межах сустрэчы быў прэзентаваны і іншы праект, фатаграфічна-паэтычны: выстаўка вядомага майстра фота Міколы Лінніка, дзе побач з кожным фота змяшчаліся вершы айчынных паэтаў.

**Яна ЯВІЧ**

# Слонімскі тэатр адзначыў наваселле

У Слоніме адбылося ўрачыстае адкрыццё новага памяшкання драматычнага тэатра. 24 гады калектыў Слонімскага драматычнага тэатра чакаў наваселля. І вось нарэшце радасны дзень наступіў.

Сотні людзей сабраліся ў цэнтры горада, каб адзначыць гэтае свята. Старшыня Слонімскага райвыканкама Алег Таргонскі павіншаваў прысутных з адкрыццём тэатра і пажадаў калектыву творчых поспехаў, а будаўнікі ўручылі дырэктару тэатра Мікалаю Лішыку сімвалічны ключ.

Пасля ўрачыстай цырымоніі слонімцы і госці горада пазнаёміліся з інтэр'ерам тэатра, а таксама пагледзелі прэм'еру спектакля па п'есе Янкі Купалы «Паўлінка» ў інтэрпрэтацыі галоўнага рэжысёра тэатра Васіля Сяўца.

**Сямён САВАНЕЦ, фота аўтара**



*Школьнікі танцуюць перад новым тэатрам пад «Паланэз Агінскага».*

# Дзве мовы ў «Сугуччы душ»

Школа педагагічнага майстэрства для настаўнікаў-філолагаў сістэмы прафесійна-тэхнічнай адукацыі пад назвай «Дзве мовы змалку мне знаёмы», прымеркаваная да Дня яднання народаў Беларусі і Расіі, ладзілася ў Мінскім дзяржаўным прафесійна-тэхнічным каледжы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва імя М. Кедышкі.

Праграма семінара была насычанай. Пасля знаёмства з установай выкладчыкі каледжа Святлана Уласенка і Вераніка Жолудзь запрасілі ўдзельнікаў у літаратурную гасцёўню «Сугучча душ», прысвечаную ўзаемасувязям дзвюх моў і літаратур. Госці пачулі ў выкананні навучэнцаў творы Аляксандра Пушкіна ў перакладзе Якуба Коласа і Аркадзя Куляшова, Янкі Купалы і Максіма Горкага, урыўкі са «Слова аб палку Ігаравым» ды інш.

А яшчэ прысутным прапанавалі майстар-клас па вырабе абрадавай лялькі, які правялі выкладчык спецдысцыплін Аляксандра Жур і майстар вытворчага навучання Ксенія Абакунчык.

Прыемныя хвіліны гумару, песень і танцаў падарылі прысутным члены гуртка «Спадчына», якім кіруе выкладчык Антаніна Казлоўская.

**Тамара ЗАЙЦАВА**

# Як захаваць натхненне?

«Вясна... Каханне... Натхненне» — пад такой назвай у дзіцячай бібліятэцы № 15 г. Мінска адбылася літаратурна-музычная імпрэза. Натхнялі старшакласнікаў сярэдняй школы № 206, іх настаўнікаў і актыўных чытачоў кніжніцы пісьменнікі Мінскага гарадскога аддзялення СПБ. Паводле загадчыка бібліятэкі Ірыны Давалтоўскай, сталічныя творцы сталі ў бібліятэцы частымі і жаданымі гасцямі.

Падчас імпрэзы гучалі лірычныя вершы, песні. Пісьменнікі разважалі над вечнымі пытаннямі, узгадвалі цікавыя выпадкі, якія здараліся на іх творчым шляху. Паэтэса Ірына Тулупава падзялілася ўспамінамі пра школьныя і студэнцкія гады, пра першыя крокі на ніве творчасці. Паэтэса Таісія Трафімава адкрыла свой сакрэт юнацкай акрыленасці: гэта шчырая бацькоўская любоў, якую яна адчула ў дзяцінстве і пранесла праз жыццё. Паэт, бард і архівіст Аляксандр Вашчанка здзівіў прысутных не толькі цудоўным выкананнем песень, але і імправізаванай выстаўкай фотаздымкаў.

Кіраўнік літаратурнага аб'яднання «Натхненне» паэтэса Вольга Сакалова правяла сапраўдны майстар-клас па захаванні ў душы натхнення.

**Ганна СТАРАДУБ**

***Імпрэзы***

# Фота. Вобраз. Верш

З фатаграфічна-паэтычным праектам «Сугучнасць вобразаў і словаў» Міколы Лінніка можна пазнаёміцца, зазірнуўшы ў сталічную бібліятэку № 15 імя Цёткі. Незвычайнасць выстаўкі ў тым, што ўласныя работы фотамастак спалучыў пад агульнымі рамкамі з вершамі сучасных беларускіх паэтаў. Творцаў, розных па «стажы» і вядомасці, аднак роўных па глыбіні пачуццяў да роднай зямлі і адказнасці перад вобразным словам. Асабістая сціпласць, павага да суаўтараў-паэтаў, чуйнасць да вершаванага слова падказалі мастру захаваць парытэт вершаў і здымкаў нават у падзеле плошчы асобных экспанатаў.

Імпрэзу адкрыла загадчык бібліятэкі Рэгіна Багамолава, якая паведаміла, што гэта трэцяя выстаўка М. Лінніка ў іх кніжніцы толькі за апошнія два гады, і павіншавала яго з нядаўнім юбілеем. Дарэчы, Рэгіна Казіміраўна — адна з паэтэс, чые радкі знайшлі адпаведны фотасюжэт у багатай творчай скарбонцы майстра. Гэтак жа як і вершы Віктара Шніпа, Змітрака Марозава, Міколы Кандратава, Вольгі Шпакевіч, Івана Пыкі, Ядвігі Рай. Амаль усе творцы прысутнічалі на адкрыцці экспазіцыі і выступілі з віншавальнымі словамі і вершаванымі радкамі.

Крэда Міколы Лінніка — рабіць здымкі «начыстую», без наступнай апрацоўкі з дапамогай камп'ютарных праграм. Апроч выдатных работ, якія адлюстроўваюць незвычайную прыгажосць роднага краю і адметнасць яго гісторыі, не менш важкай з'яўляецца роля Мікалая Міхайлавіча як фотаархівіста сучаснага культурнага жыцця Мінска.

**Юрась НЕРАТОК**

**МАХТУМКУЛІ** (псеўданім Фрагі; каля 1730 — 1780-я гг. XVIII ст.) нарадзіўся ў селішчы Хаджы-Гоўман на паўднёвых схілах Капет-Дага. Туркменскі паэт, пачынальнік туркменскай літаратуры. Вучыўся ў Хівінскім медрэсэ. Шмат падарожнічаў. Пісаў лірычныя, сатырычныя, філасофскія вершы, лірычныя і ліра-эпічныя паэмы. Збераглося больш як 10 тысяч радкоў яго паэзіі. Высмейваў карыслівасць багацеяў, мусульманскага духавенства, асуджаў міжпляменныя спрэчкі («Птушка шчасця»). Наблізіў туркменскую паэтычную мову да народнай, адмовіўся ад араба-персідскай метрыкі (аруз), прынятай у туркменскай літаратуры, замяніў яе народнай сілабічнай сістэмаю. Творы Махтумкулі ўпершыню апублікаваны ў 1842-м. Вершы славутага туркменскага паэта неаднаразова выдаваліся як на роднай мове, так і ў шматлікіх перакладах, у тым ліку і па-беларуску.



## Як быць?

*Як быць душы, што ў пекле дагарае?*
*Як быць таму, каго карае гнеў?*
*Адзін ты ў пустцы. Там не будзе раю,*
*А пекла аніколі не міне.*

*Што страчана — ніякі чорт не верне,*
*Дарэмна ты кідаў у глебу зерне.*
*Каханне і само цябе абверне.*
*Не спраўдзіцца твой даўні сон, о не.*

*Няма даўно цярпення і даверу.*
*Усё прабегла хвалямі Кеўсера.*
*У рай былы зачынены ўжо дзверы —*
*Ніколі іх ніхто не адамкне!*

*Махтумкулі, ты быў ад шчасця п'яны,*
*Няверную сваю лічыў каханай.*
*Усё кудысьці збегла нечакана.*
*Адплакаўшы, не будзеш разумней.*

## Патрэба

*Ну і прагны чалавек!*
*Голы ўзнікне — дай халат.*
*Падрасце — давай чурэк:*
*Малаку ўжо ён не рад.*

*Будзе сем — давай каран,*
*Ісціну шукаць пара.*
*І вучыцца час якраз,*
*А патрэб яшчэ няшмат.*

*Крэпнуць рукі і спіна,*
*Кожны дзень — як навіна.*
*А ў пятнаццаць хлопча наш*
*Паглядае на дзяўчат.*

*Ён салодкі, юны рот,*
*Прагне толькі насалод.*
*А жыццё само — не мёд,*
*Ёсць у ім і соль, і яд.*

*Хопіць гонару аж звыш.*
*Не прымае сэрца ціш.*
*Заваёўваць Рым, Парыж*
*Будзе наш малодшы брат.*

*Весяліўся б так сакол,*
*Ды ўжо просіцца з кійком*
*Старасць, сумна ад якой,*
*Ну а ёй ніхто не рад.*

*Як смяротны час праб'е,*
*Дык патрэбы ўсе твае*
*Іншым час перадае.*
*Час, ён не баіцца страт.*

*Што Махтумкулі спасціг*
*У самотлівым жыцці?*
*Каб сцягой дабра ісці —*
*Мудры трэба друг і брат.*

## Калі

*Забудуць, як нікчэмны злот,*
*І не згадаюць аніколі,*
*Калі адвагі не было*
*У ратніка на ратным полі.*

*Як сына хтосьці не меў свайго,*
*Хто ўспомніць потым пра яго?*
*Калі ў душы гарыць агонь,*
*Ты не тушы яго ніколі.*

*Не ўстане птушка на крыло,*
*Калі патрапіла ў сіло.*
*Пустое хто калі малоў,*
*Калі шчаслівa родзіць поле?!*

*Лепш сніць пад родным небам сны,*
*Слаць толькі дома дываны.*
*Калі чакаеш ты вясны,*
*То і ручай пачуць даволі.*

*Махтумкулі, хоць шмат турбот,*
*А думак не слабее лёт.*
*І ежа не палезе ў рот,*
*Калі турботай не падсоліш!*

## Не будзь!

*Прыйдзі, душа, я дам параду.*
*Яе ніколі не забудзь.*
*Хоць дараваў нявернай здраду —*
*Ёй спадарожнікам не будзь!*

*Давай і сам камусь парады.*
*Нікому не шкадуй спагады.*
*Не бойся тых, хто мае ўладу,*
*Але й зайздрослівым не будзь!*

*Махтумкулі, шануйма згоду!*
*Нясе нам вечнасць кубак мёду.*
*Цані сяброўскае заўсёды*
*І сябрам ворагу не будзь!*

## Ці зразумее?

*Як страціў недзе гонар свой джыгіт,*
*Дзе ясны дзень, дзе змрок —*
*ці зразумее?*
*П'янчуга горкі, плача хоць наўзрыд,*
*Што плача па сабе — ці зразумее?*

*Што зробіш, калі розуму няма?*
*Разумнага баіцца і вядзьмак.*
*Сабака той, што косткі знае смак,*
*Прысмакаў іншых сэнс ці зразумее?*

*Нябесны гром зямных пужае нас.*
*А ў небе, там, лагодны ён якраз.*
*Будысту не пашкодзіць і намаз.*
*Ды боскі сэнс яго ці зразумее?*

*Не трэба неру граматы іспыт.*
*Аслу навошта жарабецкі спрыт?*
*У бітве зложыць галаву джыгіт —*
*Сэнс перамогі трус ці зразумее?*

*Махтумкулі вяшчуе праўду вам.*
*Пачуйце тое, што ён чуе сам.*
*Бляск золата, што вочы слепіць нам,*
*Той, хто даўно аслеп, ці зразумее?*

## Пакідае

*Хто свой палац узводзіць на пяску,*
*Той бедняком руіны пакідае.*
*Ужо жыццё вісіць на валаску.*
*Праклятны кон, жыццё нас пакідае.*

*О, колькі душ праз боль, і тлум, і жаль,*
*О, колькі душ, якіх аблытаў жах,*
*О, колькі душ, празрыстых,*
*як крышталь,*
*Зняверанымі свет наш пакідае.*

*Адзін багаты ладзіў мінарэт.*
*Зваліўся з даху — знік яго след.*
*У пошуках удачы недзе ў свет*
*Сын адыходзіць, родных пакідае.*

*Дзе самі мы? Ці будзе нам працяг? —*
*Пытаемся, наіўныя, ў жыцця.*
*Глядзіце: чалавеку і нявуцям,*
*Што нас жыццё раптоўна пакідае.*

*Усе мы пойдзем з гэтае зямлі.*
*І хан пайшоў, і бедныя пайшлі.*
*І незайздросны ён, Махтумкулі,*
*Сам адыходзіць — слова пакідае.*

## Старасць

*З калень маіх сіла былая сышла,*
*Адзін я са старасцю злою застаўся.*
*У зрэнках святло дагарэла датла.*
*Я ў попеле попелам сумным застаўся.*

*Шукаў я надзею, каня заганяў,*
*Праклятвы Меджнун мяне гэтак даняў.*
*Я добрыя мары на смутак мяняў,*
*Са смуткам сваім і застаўся.*

*Знаходзіў я мала, блудзіў і грашыў.*
*Я кубак кахання да дна асушыў,*
*Але не спатоліў самотнай душы.*
*Як кветка ў мароз, без цяпла я застаўся.*

*Фрагі, ты ў народзе вядомы, аднак.*
*Усё ў гэтым свеце свой ведае смак.*
*Мудрэц, не магу зразумець я ніяк,*
*Чаму без надзеі я раптам застаўся.*

## Не магу зразумець

*У чашу вечнасці хмель мне настаўнік ліў —*
*Дзе міхраб, дзе мячэць — не магу зразумець!*
*Я красы дарагой толькі глыт адпіў —*
*Ці гарэць, ці тлець — не магу зразумець.*

*Гэтак шмат было цяжкіх дум-трывог.*
*Што не мог я сам — памагаў мне Бог.*
*Я гарэў і тлеў, я ісці не мог.*
*Я жывы ці не — не магу зразумець.*

*І далёка дзесь мой згубіўся след.*
*Не сцярог нас кон, не збярог ад бед.*
*Так і трапіў я ў несусветны свет.*
*Дзверы ў доме дзе — не магу зразумець.*

*Я карысным быць і зямным хацеў.*
*Я марудным быў — час хутчэй ляцеў.*
*І не ў кнігу я — ў мілы твар глядзеў.*
*Мне Каран чытаць — не магу зразумець.*

*Вось у свеце якім быў Махтумкулі.*
*Быў там шэйх, ля яго карагод вялі.*
*Мае лепшыя дні ў нябыццё сплылі.*
*Як хмялець, цверазець —*
*не магу зразумець.*

## Ростань

*Ты напала з-за вугла,*
*Ты спакой забрала, ростань.*
*І Менглі з табой сышла,*
*Гора мне прынесла, ростань.*

*Раб, ратунку мне няма,*
*Плачу дзень і ноч дарма.*
*Ты рукой сваёй сама*
*Пакарала мяне, ростань.*

*Клічу я —*
*не чуе шах.*
*Навакол нямы прасцяг.*
*Рассыпае горы ў прах,*
*Спальвае ўсё ростань.*

*Родных гор не пазнаю.*
*Рану як лячыць маю?*
*Мне лякарства не даюць,*
*Бо таго не хоча ростань.*

*Зюльфікар упаў да ног.*
*Ціш. Нікога. Толькі ноч.*
*І сяброў маіх даўно*
*У Іран пагнала ростань.*

*Лук хоць ёсць —*
*пусты кашан.*
*Сонца з месяцам маўчаць.*
*Толькі — слёзы на вачах —*
*Так мяне карае ростань.*

*Плача раб Махтумкулі,*
*Згадвае сваю Менглі.*
*Датляюць жыцця вуглі*
*Праз характар злы твой, ростань!..*

## Наказ

*Сябра маеш — ім і даражы,—*
*Ён табе заўжды дарадцам будзе.*
*Сам той не стрывае, а збяжыць,*
*У каго сусед нікчэмным будзе.*

*Тых, хто йдзе насустрач,— не мінуць.*
*Грэх, як блізкіх хочаш абмануць.*
*Можна нават гора сербануць,*
*Як радня твая нікчэмнай будзе.*

*Словы ёсць: адным — цябе клянуць,*
*Іншым — за сабой цябе вядуць.*
*Ну а тыя, што хвалу пяюць,—*
*Многа іх, ды хай зусім не будзе.*

*Не здавайся анідзе журбе,*
*Хоць пад сэрцам злая мыш скрабе.*
*Вораг смела пойдзе на цябе,*
*Калі ты тулягам ціхім будзеш!*

*Я, Фрагі, параду дам адну:*
*Ты не блытай з праўдаю ману.*
*А таго заўсёды праклянуць,*
*Хто служакам у няпраўды будзе!..*

## Сапраўдны мужчына

*Хто смелы, перамозе рады ён*
*Над роўным самаму сабе мужчынам.*
*Разлука шчасце знішчыла маё*
*З маім народам разам і краінай.*

*Лёс косіць племя кветак маладых,*
*І салаўя трывожыць, і сады.*
*Заўсёды там, на ўскраіне бяды,*
*Смяльчак адзіны знойдзецца — мужчына.*

*На тыгра смела кінецца смяльчак,*
*Ён злое будзе секчы ўсё спляча,*
*Патушыць злое полымя ў вачах, —*
*І ўсе шакалы знікнуць праз хвіліну.*

*Лёс шкадаваў мне шчасця на зямлі,*
*Агнём кахання сэрца мне спаліў.*
*Што плакацца табе, Махтумкулі?!*
*Ты не забыўся ўсё ж, што ты мужчына.*

**Пераклад з туркменскай**
**Казіміра КАМЕЙШЫ**

## Не адкрыецца твой сакрэт

*Дай, мой сябра, гаварыць з табой,*
*Як змаўчыш, то прападзе сакрэт,*
*Што ты носіш у сабе з журбой*
*Пра сябе і цэлы белы свет.*

*Ты, як кветка, радуеш мяне,*
*Іншым разам ты як бервяно,*
*Часам — нібы костачка ў віне*
*Ці камень, што кінуты ў акно.*

*Днём спякотным да цябе ідзём,*
*Ты для нас нібыта вадапой.*
*Нават ноччу, а не толькі днём*
*Нам няма спакою тут з табой.*

*Ты смяшыў усіх: чужых і нас,*
*Не было ніякае жуды.*
*Зразумелі, як мінуўся час,—*
*Вечным сваяком не станеш ты.*

*Не сумуй, смялей праз свет ідзі,*
*Хай пяском ля нас лятуць гады.*
*Прыпыніся, ў неба паглядзі,*
*Болей маладым не станеш ты.*

## Каштоўней

*Для слоў разумных будзь заўсёды ты*
*З душой, раскрытаю ва ўсе гады.*
*Будзь грозным змагаром, ды толькі помні,*
*Што ворага памілаваць каштоўней.*

*Са здраднікам ніколі не сядзі.*
*У гной патрапіш, будзеш сам як гной.*
*З людзьмі станоўчымі свой рэй вядзі*
*І за сяброў усюды стой гарой.*

*І крыўдай не адказвай на дабро,*
*Бо не заўсёды слова — серабро.*
*Не абражай людзей. Абраза — гора.*
*Ад злодзея бяжы! Каштоўней воін.*

*Не гань ніколі родную прыроду*
*Ні пад пякельным сонцам, ні пад поўняй.*
*Дабро зняважыўшы, ты робіш шкоду,*
*У людзях дабрыня за ўсё каштоўней.*

*Махтумкулі! Не быць бядзе людской!*
*Ад Праўды ты не адступай душой,*
*Спакой жыццёвы — нібы сонца промні,*
*Ды кропля шчасця*
*ў сто разоў каштоўней.*

## Не так жывеш ты

*Чалавек! Сябе ты не спазнаў,*
*Не імкнешся спазнаваць сябе.*
*Ты, як помнік, збранзавелы,*
*З зоркаю чырвонай у ілбе.*

*Думаеш, ты велічны ўладар,*
*Сабіраеш грошы, а яны — пясок,*
*Хоць, як сонца, выглядаюць з хмар*
*Нашага жыцця, дзе кожны крок*

*Не заўсёды крокам да святла.*
*Зло пасеяна даўным-даўно,*
*І яно расце, і кветкі зла*
*Нам прыгожаць шлях там, дзе віно*

*Льецца, размываючы наш Храм,*
*За які трымаецца душа.*
*Сёння смела гаспадарыць хам.*
*Дзе цяпер прыстойнасці мяжа?*

*Шмат пытанняў задае нам Бог.*
*Мы маўчым, нібы малыя дзеці.*
*Сотні ў нас наперадзе дарог.*
*Толькі ўсё ж не вечныя мы ў свеце.*

**Пераклад з туркменскай**
**Віктара ШНІПА**



Наталія КАСЦЮЧЭНКА

# Смак дняпроўскай вады

## Пра час і ўзрост

### *(раздзел з другой часткі рамана «Вярба над вірам»)*

Амаль не заўважыла, як «пясочны гадзіннік» жыцця раўнамерным танюткім струменьчыкам часу, які звычайна так непрыкметна, павольна ўбывае, адлічыў мае пяцьдзясят.

Падобна да зададзенага маршруту ўзрост заўсёды адмяраецца пачаткам і канцом. Час жа ні пачатку, ні канца не мае. Ёсць толькі замкнуты цыкл змены пораў года: за летам ідзе восень, затым зіма, за зімою — вясна і зноў лета. Ілюзія бессмяротнасці... І няспынная руху па крузе.

Дагэтуль для мяне ўзрост атаясамліваўся з пэўнымі здольнасцямі ўспрымаць тое, што акружала і з чым сутыкалася. Кожны ўзроставы перыяд быў нейкім своеасаблівым, мала падобным да папярэдняга, кантынентам адчуванняў і пачуццяў.

У тую шчаслівую пару маленства, калі не ўмела чытаць і хоць колькі-небудзь працыянальна думаць, мяне быццам нябачная пупавіна звязала з сапраўдным сусветам, шматмерным і шматгранным, які яшчэ не быў скажоны ні маім, ні чужым веданнем пра яго. І фарбы гэтага сусвету здаваліся ярчэйшымі і шчыльнейшымі, гукі — больш выразнымі і тонкімі, а ўсхваляванасць, якую яны выклікалі, узрушала душу. Тады, у дзяцінстве, мяне акружалі не проста неба, дрэвы і травы, а Неба, Дрэвы і Травы. Усё мела іншую веліч, іншую маштабнасць і быццам вяшчала пра тое, што свет існуе для мяне. Я адчувала, улоўлівала гэта не розумам, не мысленнем, а скурай. І, адчуваючы давер да створанага для мяне свету, не сумнявалася: нішто і ніколі не зможа азмрочыць маю радасць.

Але калі гэтая радасць пры першым жа, няхай нават і дзіцячым, выпрабаванні з прычыны нязначнага, на сённяшні погляд, удару раптам разляцелася на малюсенькія асколкі, я зразумела, што свет існуе не толькі для мяне адной. Што на зямлі ёсць безліч іншых людзей. І кожны з іх мае такое ж, выключнае, права на гэты свет.

Нечаканым узрушэннем стала ўсведамленне таго, што ім, людзям, аказваецца, амаль няма справы да маёй асобы, і, разгубіўшыся, я раптам адчула сябе нязначнай, нібыта падманутай кімсьці. Так, напэўна, з'яўляецца на свет, быццам куранё з яйка, нясмелае і неакрэплае, якое толькі-толькі пачынае сумнявацца і думаць, «я» і разам з ім — «эга».

Тады, шчыра апраўдваючы і ўспрымаючы як справядлівае гэтае сваё «эга», я не здагадвалася, што надыдзе час, калі давядзецца распазнаваць амаль кожны з яго шматлікіх адценняў. І, вывернуўшы спод ягонай ганебнай сутнасці, да знямогі, «да крыві» змагацца з ім. І з кожнай, хай нават і самай нязначнай, перамогай над сваім «эга», угледжаючы ў іншых людзей, я болей і болей буду разумець: усе мы падобныя ў галоўным. І гэта падобнасць — натуральная. Таму што агульны «архетыпны» досвед карэніцца ў кожным з нас, прытым даволі глыбока. Індывідуальнае быццам бы патанае ў ім. І такая шырока распаўсюджаная схема (няма чалавека, які ў тыя ці іншыя моманты жыцця не ўспрымаў свет па ёй) — «я» — цэнтр, а па перыферыі — «яны», гэта значыць народ, — сёння стала для мяне непрымальнай. Бо я — гэта таксама «яны». І ўсе мы аднолькава радуемся ў дзяцінстве, марым у маладосці і маркоцімся, калі старэем.

У дзяцінстве мне здавалася, што неба над маёй любай вёскай з яе невысокімі хатамі распасціралася на ўсю шыр зямлі. Удзень яно было то бязвоблачнае, блакітнаватае, то ў хмарах, якія мудрагеліста клубіліся. Вечарам — насычалася згусцелымі фарбамі, ад фіялетава-сініх да барвовых, што ўзбуджалі і трывожылі душу. Ноччу неба станавілася таямнічым і прываблівым, асабліва калі на ім праяўляліся зоркі.

Бывае, у час бессані выразна бачыш тое яскравае і незваротнае, што калісьці ўсхвалявала і да канца твайго жыцця ўтрымаецца ў памяці.

Вось я, малодшы брат і бацькі ў нашым першым сумесным начлезе на дняпроўскай пясчанай, парослай маладымі вербамі касе... Бацька пераправіў нас сюды на лодцы. Змайстраваў з лазняку шалаш.

Дагарала вогнішча. Учацвярых, поплеч, мы ляжалі на духмяным сене і глядзелі на неба, што пачынала чарнець. І тыя ўражанні ад зорнага неба ўва мне ярчэй і выразней, чым ад першага пацалунка, паступлення ў інстытут і нават чым ад тых хвілін, калі ўпершыню, на самалёце, узляцела ў яго неабсяжны прастор. Я прыгадваю тое начное неба з большым хваляваннем, чым некаторыя іншыя значныя падзеі ў маім жыцці.

Тады я не магла адвесці вачэй ад вялікіх і маленькіх зорак, якія мігцелі, заварожвалі незямной прыгажосцю, глядзела, як праляталі самалёты, крэслілі цемру метэарыты, а можа нават і спадарожнікі. Бацька ціха, загадкавым паўшэптам, расказваў пра планеты, неспасціжнасць для нашага разумення сусвету, пра вечнасць. І мне здавалася, што я глядзела ў космас з калыскі зямлі. І космас адчуваў мяне, моўчкі міргаў зоркамі. У такія хвіліны адкрываецца тайна: калі на неба глядзець доўга, губляеш мяжу паміж ім і зямлёй. Альбо зоркі апускаюцца, альбо ты ўзносішся да іх і ўцягваешся, уцягваешся бяздоннай далячынню.

О, якое ж гэта было шчасце — знаходзіцца побач з самымі блізкімі табе людзьмі і, лежачы пад адкрытым, бясконцым, поўным загадак небам, удыхаць пахі траў і ракі.

Днепр з ягонымі абрывістымі берагамі, у якіх ластаўкі рабілі свае норкі-гнёзды, з шырокімі плёсамі, пясчанымі косамі і водмелямі, старыцамі і заліўнымі лугамі быў самай прыгожай, самай галоўнай ракой на зямлі, таму што ён быў маёй ракой. Мне падабалася глядзець на ракеты, што праплывалі міма, катары і баржы, на хвалю, якая імкліва наварочвалася, злізваючы з берагавога пяску свежыя сляды, на чародкі малявак, што замíралі ў празрыстай, прагрэтай сонцам водмелі. Любіла смак дняпроўскай вады, тады яшчэ даволі чыстай, якую чэрпалі проста з ракі кепкай або панамкай і тут жа, працадзіўшы праз свой галаўны ўбор, пілі. А яшчэ падабалася, прысеўшы на беразе, глядзець удалечыню, у той бок, куды несла свае воды мая рака. Да мора. Уяўляла, як яна шырыцца і набірае сілу. І думала, што вось так жа будзе шырыцца, імкнучыся ў будучыню, і набіраць сілу маё жыццё.

Памяць... У ёй усё: і пахі, і гукі... І нават смак ежы... Здараецца, што якое-небудзь адно, няхай нават імгненнае, адчуванне раптам вяртае цябе ў дзяцінства. Прытым настолькі ярка, настолькі прыметна, што ўспамін быццам становіцца рэальнасцю.

Неяк, крыху прыхварэўшы, я запарыла палын і бяссмертнік. Пах, гарката гэтага адвару так не падабаліся ў дзяцінстве... Бабуля выводзіла мяне ў сенцы, падавала кубак з тымі горкімі лекамі і ўгаворвала зрабіць глыток. Я моршчылася, адпіўшы нясмачны адвар. Гарката... Помню тое непрыемнае адчуванне... Рабіла глыток праз сілу. Сёння з хваляваннем вымаю з палатнянага мяшэчка лекавыя зёлкі, сабраныя летам. Заліваю кіпнем і з глыбокай пашанай, заміраннем настойваю.

Як пахне... Родным... Адчуваю прысутнасць бабулі, якой ужо больш за дваццаць год няма. Раблю глыток... Заміраю ад адчуванняў... І няма нічога саладзейшага за гэты горкі напітак.

На жаль, тое, што ў дзяцінстве хвалявала мяне, тонкае, злітае з нябачнай першаасновай быцця, паступова стала гаснуць. І з узростам гэта згасанне рабілася ўсё больш прыкметным.

Прыйшоў час, і пастукаўся ў мой яшчэ недасведчаны свет «эрас», каб стаць уладаром эмоцый і страсцей, заглушаючы ціхую, пяшчотную мелодыю дзіцячых пачуццяў. І гэтыя страсці і эмоцыі патрабавалі душэўных сіл, усіх, без астатку. Серабрысты голас дзяцінства гучаў усё цішэй і глушэй.

І вось цяпер, пражыўшы паўвека, я чую ўжо іншы голас. Ён робіць усё роўным і амаль безэмацыянальным. Хоць яшчэ па звычцы ўсклікваю: «Як хораша!» або «Цудоўна!», але рэдка адчуваю гэтае чароўнае і цудоўнае. Новы, сталы голас хутка гасіць рэдкія ўсплёскі радасці, не дазваляючы сабе чакаць ад лёсу цуду, як бы паспяхова ні складвалася жыццё.

Можа, у гэтым свеце, сплеценым з усіх адкрыццяў і дасягненняў чалавецтва, даражэй за ўсё маленькі бесцялесны згустачак дзіцячай душы?

Я рэдка сню сябе ў цяперашнім узросце. Мае сны быццам адмаўляюцца ўспрымаць сапраўдны ўзрост і існуюць у мінулым. Іншы раз у сне я зусім юная і, радуючыся, бачу моцнымі і здаровымі сваіх дзядулю і бабулю, а таксама шмат каго з тых людзей, якіх ужо няма на гэтым свеце. І нярэдка, як у маладосці, хвалюючыся, спяшаюся на адно з першых, далёкіх, якім больш ніколі не паўтарыцца ў рэальным жыцці, спатканняў.

Чалавечае жыццё быццам круціцца вакол маладосці. Маладосць — «восевы час» чалавека. Толькі ў маладосці табе даецца безумоўная вера ў сябе, у свае здольнасці і прадчуванне значнай, абавязкова шчаслівай будучыні з яе неверагоднымі магчымасцямі. Таямніца твайго лёсу пакуль яшчэ не раскрыта. Таму ўсё, што наперадзе, кліча і прыцягвае. І ты адчуваеш сваё асаблівае прызначэнне, выбранасць.

У дзяцінстве маладосць мне бачылася яскравай, прывабнай, і я нецярпліва чакала яе прыходу (вось вырасту вялікая!), а цяпер з сумам думаю пра яе. І хоць маладосць, як прынята лічыць, валодае паўнатой сіл і магчымасцей, я з горыччу тушу апошнія вугольчыкі яе былой, дзёрзкай і саманадзейнай, фанабэрыстасці.

Наперадзе — старасць. Яе набліжэнне востра адчуваю, калі бачу, як старацца, губляюць фізічныя сілы самыя дарагія для мяне людзі — мае бацькі. Іншы раз, у думках прымяраючы іх старасць на сябе, баюся самага страшнага — разлукі. Дзіўлюся, што, здаецца, нядаўна, амаль ці не ўчора, ім было столькі ж год, як мне сёння, а цяпер яшчэ больш кароткі, можна сказаць, нязначны прамежак часу аддзяляе мой узрост ад іхняга. Вось ён дзе, бязлітасны і незваротны закон паскарэння! Ужо не доўжацца, а ўсё шпарчэй пралятаюць зімы і вёсны.

Цяпер ты не толькі набываеш у гэтым нястрымным бегу жыцця, але і губляеш. І з кожнай чарговай стратай усё часцей задумваешся пра непазбежнасць смерці. Думкі пра яе выклікаюць шчымлівую, невытлумачальную тугу, нейкі холад, што смокча знутры.

Больш за ўсё баюся страціць сваіх блізкіх. І гэты страх, бескантрольны, падсвядомы, амаль увесь час са мной... А ў тыя хвіліны, няхай і рэдкія, калі ён нечакана становіцца пранізлівым, перад вачамі ўзнікаюць эпізоды з жыцця — звычайныя, нічым не знамянальныя, — але якія цяпер, з узростам, успрымаюцца як галоўнае і самае дарагое. Вось мама, яшчэ маладая, укладвае перад люстэркам у строгую прычоску свае доўгія русыя валасы... Тата, седзячы на канапе, пры святле бра чытае газету. Твар у яго засяроджаны, ледзь нахмураны, сур'ёзны. Мне не хочацца яму перашкодзіць, пакой жа бацькоў — зала — прахадны, і толькі праз яго можна трапіць у маленькую пярэднюю, ванную, кухню. Іду міма бацькі на дыбачках, ціхенька, амаль крадком, каб не адцягваць увагу... Прыгадваецца і наш з братам шасціметровы пакойчык-спальня з невялікай канапай і крэслам-ложкам, аднамеснай раскладной партай, за якой я школьніцай рыхтавала ўрокі, і дзявоча кніжнымі паліцамі на сцяне. Тая маленькая, небагата абсталяваная кватэра-«паўтарачка» дагэтуль сніцца і здаецца мне больш утульнай, чым цяперашняя, раскошная, са старанна прадуманым інтэр'ерам.

Даўнія, паўзабытыя эпізоды жыцця ўстаюць перад вачамі і знікаюць хутка, быццам у нямым кіно. І хоць у імгненнях, што ўсплываюць у памяці, нічога асаблівага не адбывалася, яны для мяне вельмі дарагія. І я люблю да болю, да слёз тых, хто паўстае ў гэтых нечаканых, хвалюючых карцінах: маму, бацьку, брата...

Падчас думаю: якое нетрывалае чалавечае жыццё, колькі ўсяго пагражае яму. Яго засцерагае толькі тонкая далікатная скура ды маленькі язычок дзвярнога замка. І яшчэ — шыба.

З кожнай стратай і выкліканым ёю пякучым, нясцерпным болем старэеш. Ды і самі думкі пра смерць — першыя вестуны набліжэння старасці.

Хоць, напэўна, уменне быць старым — асаблівае майстэрства. У старасці больш не патрабуеш ад свету таго, чаго ён не можа табе даць, і набываеш важнейшае з пачуццяў — пакорлівасць. Скараючыся, становішся бліжэй да Бога. А ў гэтым, можа быць, і ёсць галоўны сэнс чалавечага жыцця?

Старасць — гэта пастаянная сустрэча з мінулым, якое ўжо не марыць, а спаганяе, патрабуе з цябе, тыцкае табе ў вочы, у душу тваімі памылкамі, слабасцямі, заганамі і прапушчанымі магчымасцямі. Старасць, можа, таму і патрэбна, каб спытаць з цябе за маладосць. Ты ўжо не маеш магчымасці сказаць: я шмат чаго дасягну, шмат што зраблю... Усё перад табой: вось яно, глядзі, што ты зрабіў, чаго дасягнуў. Ці не праз гэтае пакутлівае адчуванне няздзейснага так не любяць старасць?

А можа быць, старасць — гэта праверка на мужнасць? Незаўважна звужаецца тваё наваколле. Ты становішся слабым, пачынаеш адчуваць самоту, абязвечваешся і няўхільна набліжаешся да мяжы, за якой — цемра невядомага. Няма ў цябе ні прыгажосці, каб зачароўваць, ні сілы, каб процістаяць.

І ўсё ж, відаць, нездарма дадзены чалавеку гэтыя складаныя, апошні, але, магчыма, самы галоўны ў яго жыцці перыяд. Час спыніцца і час задумацца. Час жніва і час пакаяння. А ў канчатковым выніку — момант ісціны.

Пошук

# Невядомы верш Янкі Лучыны

**У альманаху А. І. Слупскага «Северо-западный календарь» у 1893 г. на першай старонцы змешчаны ананімны верш «Родной Белоруссии». Сцяпан Майхровіч у манаграфіі «Янка Лучына: Жыццё і творчасць» (Мінск, 1952) сцвярджае, што твор належыць Янку Лучыну. Але Уладзімір Мархель, рыхтуючы творы паэта да друку, не змясціў гэты верш ні ў першым выданні твораў паэта (Янка Лучына. Творы: Вершы, нарысы, пераклады, лісты / Уклад., прадм. і камент. У. Мархеля. — Мінск, 1988), ні ў другім (Янка Лучына. Творы: Вершы, нарысы, пераклады, лісты / Уклад., прадм. і камент. У. Мархеля. — Мінск, 2001). Разам з тым ён нідзе не выступіў супраць меркавання С. Майхровіча.**

Паспрабуем разабрацца, каму належыць верш. Але спачатку нагадаем яго:

## Родной Белоруссии

*Ты глаз не чаруешь волшебной красою,*
*Родная моя сторона:*
*Не тянутся горы воздушной грядою,*
*Не плещет морская волна,*
*Не пенятся грозно валы водопада,*
*Катяся шумливой семьёй,*
*И рощ, и садов благовонных прохлада*
*Не манит в полуденный зной.*
*Не лености праздной и неге покоя*
*Природа тебя обрекла:*
*Быть местом упорного тяжкого боя*
*Тебе назначенье дала.*
*А враг твой — болота и чаща лесная,*
*Что грозно тебя облегла,*
*И знанью и свету пути закрывая…*
*Угрюмо царила здесь мгла.*
*Ты приняла вызов и ты победила*
*В той битве с суровым врагом:*
*Ты смело дороги в лесах прорубила,*
*И стало светлее кругом.*
*Упорным трудом осушила болота,*
*И там, где царил прежде зверь, —*
*Там дружно кипит полевая работа*
*И слышится песня теперь.*
*Глядишь ты вперёд безбоязненно, смело,*
*Грядущее ясно тебе —*
*Ты знаешь: тебе ещё много есть дела,*
*Но ты уж привыкла к борьбе.*
*Ты знаешь, дорогою ровною, ясной*
*Сыны твои дружно идут;*
*С любовью к тебе неизменною, страстной*
*И знанье и свет принесут.*

«Северо-западный календарь», які выходзіў з 1886 г., з'яўляўся дадаткам да газеты «Минский листок». Ужо ў першым нумары газеты быў змешчаны рускамоўны верш Янкі Лучыны «Не ради славы иль расчёта».

*Служить стране, глухой, забитой,*
*Где мрак невежества царит,*
*В лачуге, где, соломой крытой,*
*Мужик печально дни влачит.*

Верш «Родной Белоруссии» можна лічыць своеасаблівым працягам гэтага твора.

С. Майхровіч піша: «Верш [«Родной Белоруссии». — **В. К.**] старанна выгравіраваны курсівам, што было рэччу даволі складанай для тагачаснай паліграфічнай тэхнікі — настолькі, відаць, высока быў ацэнены верш». Ён не мог не быць высока ацэнены, бо ў ім уздымаліся найбольш актуальныя тагачасныя праблемы (неадукаванасць і беднасць беларускага народа, неабходнасць пераўтварэнняў у прыродзе, вера ў грамадскія змены, надзея на светлую будучыню і інш.), пра што не кожны паэт адважыўся б заявіць у друку.

А Янка Лучына і раней друкаваў вершы з падобнай праблематыкай.

«У тым, што верш [«Родной Белоруссии». — **В. К.**] належыць пяру Янкі Лучыны, не можа быць ніякага сумнення, — адзначае С. Майхровіч. — У гэтым пераконвае параўнанне яго з такім творам паэта, як «Роднай старонцы». Не кажучы ўжо аб поўным супадзенні вобразных выяўленчых сродкаў, спецыфічна Лучынавым рытме і метры, аб уласцівых яму лексічных асаблівасцях будовы вобраза — абодва гэтыя творы не толькі супадаюць па назвах: больш таго, яны строга ідэнтычныя па духу свайму і ідэйна-палітычнай накіраванасці, па сіле грамадзянскага гучання. Адкрываючы свой каляндар гэтым творам, А. Слупскі, відаць, свядома апусціў подпіс аўтара, жадаючы тым самым больш выразна падкрэсліць праграмны змест і напрамак свайго выдання».

З гэтым выказваннем даследчыка нельга не пагадзіцца. Але якія прычыны ананімнасці твора? У загалоўку ўжываецца назва краіны, якая была тады забаронена. Зразумела, выдаўцу не хацелася «падстаўляць» паэта. Разам з тым, існуе і яшчэ адна прычына ананімнасці: у сувязі з тым, што ў выданні і так было некалькі вершаў з подпісам «Янка Лучына», выдавец мог пакінуць твор ананімным, каб стварыць у чытача ўражанне, што ў нумары надрукавана шмат розных аўтараў. І апошняе: А. Слупскі, магчыма, хацеў, каб у свядомасці чытача Янка Лучына застаўся ў першую чаргу беларускамоўным паэтам, таму і пакінуў без подпісу рускамоўны верш.

Акрамя Янкі Лучыны верш «Родной Белоруссии» мог напісаць паэт, які нарадзіўся ў Беларусі, пісаў па-руску, у тым ліку закранаў грамадскія праблемы. Гэта найперш Адам Гурыновіч, Дарафей Бохан, Мікалай Мінскі і Вайніслаў Савіч-Заблоцкі. Ці маглі яны з'яўляцца аўтарамі гэтага верша?

Адам Гурыновіч (1869 — 1894) на час публікацыі верша «Родной Белоруссии» (1893) знаходзіўся ў зняволенні і ў хуткім часе памёр. Пры жыцці А. Гурыновіча яго творы не публікаваліся.

Дарафею Бохану (1878 — 1942) у час публікацыі верша было 15 год, а «Родной Белоруссии» — гэта, несумненна, вынік працы ўжо сталага паэта.

Мікалай Мінскі (1855 — 1937) пісаў творы ў рэчышчы сімвалізму і дэкадэнцтва. Акрамя гэтага, ён не меў сувязі з «Минским листком», бо з 1879 г. выехаў у Санкт-Пецярбург.

Вайніслаў Савіч-Заблоцкі (1850 — 1893) пісаў вершы на польскай, беларускай і рускай мовах. З 1891 г. жыў у Санкт-Пецярбургу, дзе і памёр.

Наўрад ці хтосьці з пералічаных паэтаў мог быць аўтарам верша «Родной Белоруссии». Праблемна-тэматычнае поле верша цалкам супадае з усёй творчасцю Янкі Лучыны, таму можна выказаць меркаванне, што верш належыць менавіта яму. І тым самым далучыцца да гіпотэзы Сцяпана Майхровіча. А значыць, у новым зборы твораў Янкі Лучыны трэба абавязкова змясціць верш «Родной Белоруссии».

**Вольга КРУГЛОВА**

# Першы сакратар і пісьменнікі

7 КРАСАВІКА 2014 ГОДА — 100 ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ КІРЫЛА МАЗУРАВА

### ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА

Гэты чалавек назаўсёды ўвайшоў у гісторыю Беларусі ХХ стагоддзя. Вядома, што Кірыл Мазураў — не толькі дзяржаўны і партыйны дзеяч нашай рэспублікі (кіраўнік урада БССР, першы сакратар ЦК КПБ), але і СССР. Больш як 13 гадоў (у 1965 — 1978) ён быў членам Палітбюро ЦК КПСС і першым намеснікам Старшыні Савета Міністраў СССР.

У час Вялікай айчыннай вайны, з верасня 1942-га па кастрычнік 1943-га, К. Мазураў знаходзіўся ў акупаванай Беларусі — кіраваў камсамольскім падполлем, удзельнічаў у партызанскіх аперацыях.

Стаўленне Кірыла Мазурава да беларускай літаратуры з'яўляецца цікавым найперш у гістарычным аспекце.

### МІХАСЬ ЧАРОТ У АЎТАМАБІЛЬНЫМ ТЭХНІКУМЕ

У 1929 — 1933 гадах К. Мазураў вучыўся ў Гомельскім аўтамабільна-дарожным тэхнікуме на дарожным аддзяленні.

Праз шмат гадоў ён успамінаў:

«Гады, праведзеныя ў тэхнікуме, напэўна, былі самымі насычанымі па частцы майго далучэння да літаратуры і агульнай культуры народа.

На той час Гомель ужо ўваходзіў у склад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. У мяне, як і ў многіх хлопцаў і дзяўчат, з'явілася цікавасць да гісторыі і нацыянальнай культуры народа, да беларускай мовы і літаратуры. Бібліятэкі папаўняліся выданнямі на беларускай мове, у тым ліку вершамі і паэмамі класікаў М. Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа. Іх творы меліся і ў перакладзе на рускую мову. <…> Дагэтуль памятаю, як мяне ўразілі радкі з верша М. Багдановіча «Краю мой родны! Як выкляты Богам…», напісанага ў 1909 годзе, дзе з выключнай рэалістычнасцю выяўлена сапраўднае жыццё працоўных у дарэвалюцыйнай Беларусі.



Вельмі спадабаўся сваім лірызмам і верш «Слуцкія ткачыхі». Вялікае ўражанне пакінулі эпічныя паэмы Я. Купалы «Курган» і «Магіла льва», якія ўслаўлялі героя-бунтара, і Я. Коласа «Новая зямля», у якой паэт апяваў людзей Беларусі.

Папулярныя пісьменнікі таго часу Міхась Чарот, Андрэй Александровіч, Паўлюк Трус, Пятрусь Броўка, Кандрат Крапіва, Платон Галавач, Міхась Лынькоў у 20-я гады амаль не друкаваліся на рускай мове, а чытаць па-беларуску мне было даволі складана. Але тады паэты часта выступалі перад працоўнымі, студэнтамі. Аднойчы прадстаўнікоў тэхнікума запрасілі ў клуб чыгуначнікаў на сустрэчу з Міхасём Чаротам. Гэта было, здаецца, вясной 1931 года. Тады ўпершыню непасрэдна сустрэўся з беларускай паэзіяй. На сцэну выйшаў стройны, хударлявы чалавек з цёмнымі кучаравымі валасамі, апрануты ў кашулю з вышытым каўняром і пояском. І пачаў чытаць сваю паэму «Марына». Зала рэагавала цёпла, але без захаплення. Калі ж ён скончыў, пасля апладысментаў нехта выгукнуў:

— Пачытайце «Босыя на вогнішчы».

Значыць, спадабалася, калі просяць яшчэ. М. Чарот пачаў чытаць сваю паэму, прысвечаную Кастрычніцкай рэвалюцыі. Твор пакінуў моцнае ўражанне. І вершаваны памер паэмы, і інтанацыя чытання нагадвалі Уладзіміра Маякоўскага. Так мы, маладыя людзі 30-х гадоў, успрымалі культуру рускага, украінскага, беларускага і іншых народаў, якія абралі шлях пераўладкавання жыцця на сацыялістычны лад».

(Мазуров К. Т. Незабываемое. — Мінск: 1984. — С. 46 — 47. *Пераклад рэдакцыі.*)

### СУМНЫ МАКАЁНАК

26 гадоў таму, у красавіку 1988 года, у інтэрв'ю газеце «Літаратура і мастацтва» Кірыл Трафімавіч адзначаў:

«…У гады, калі я працаваў у Мінску, на ўсё не хапала часу, у тым ліку і на культурны фронт. З майго боку ўвагі творчым арганізацыям, я лічу, было недастаткова. Але я бываў і на пленумах саюзаў, і ў майстэрнях мастакоў і скульптараў, сустракаўся з вучонымі, нават выступаў з прамовамі перад пісьменнікамі. З асобнымі прадстаўнікамі творчага цэха падтрымліваў пастаянныя сувязі.

З Максімам Танкам, Іванам Шамякіным, Генадзем Бураўкіным сяброўскія сувязі ў нас і да гэтага часу. Сябраваў я і з Петрусём Броўкам. З Андрэем Макаёнкам. Рэгулярна сустракаліся, гутарылі. З Макаёнкам быў і такі сумны выпадак. Незадоўга да сваёй смерці Андрэй Ягоравіч сустрэўся са мной у Маскве. Ён сказаў мне: «Ведаеце, Кірыл Трафімавіч, мяне непакоіць маё будучае як пісьменніка-сатырыка. На першы погляд, усё ідзе добра: п'есы мае ставяць, спектаклі хваляць, а ў мяне нейкая незадаволенасць. Людзі, па-мойму, вынікаў з маёй сатыры не робяць. Жыццё ідзе па-старому. Я прашу вас: пачытайце ўсё, што я напісаў, і дайце мне свае меркаванні і заўвагі аб маёй творчасці».

Я заўважыў, што крытык з мяне ніякі. Але ён настойліва прасіў, і я згадзіўся. Засеў я за творы Макаёнка, на што пайшло шмат часу, і ўрэшце склаў Андрэю даўжэзныя заўвагі.

Прайшло пасля гэтага мо два ці тры тыдні, аднойчы я разгарнуў газету. А там — некралог па Андрэю Макаёнку. Вось так нечакана ўсё здарылася. Я і да гэтага часу адчуваю нейкую віну перад ім.

Сустрэчы з прадстаўнікамі беларускай культуры дапамаглі мне бліжэй пазнаёміцца з гісторыяй Беларусі, вывучаць беларускую мову. Справа ў тым, што я вучыўся ў чыгуначнай школе ў Гомелі, скончыў 8 класаў у 1929 годзе. Беларуская мова і гісторыя Беларусі ў нашай школе не выкладаліся (Гомель і бліжэйшыя паветы ўвайшлі ў склад БССР толькі ў канцы 1927 года). (На самай справе К. Т. Мазураў памыляецца, таму што гэта адбылося ў канцы 1926 года. — **Э. І.**), таму беларускую мову я вывучаў ужо пазней, самастойна. Мне дапамагло тое, што ў 1945 годзе я купіў у адной бабулі на Камароўскім рынку «Словарь белорусского наречия», складзены І. І. Насовічам і выдадзены ў Пецярбургу ў 1870 годзе. Я зберагаю яго як рэліквію.

Гэты слоўнік дапамог мне ў 1947 годзе рэдагаваць па даручэнні ЦК КП(б)Б пераклад на беларускую мову некалькіх твораў У. І. Леніна. Я і цяпер чытаю не толькі «Літаратуру і мастацтва», «Голас Радзімы» і іншыя газеты і часопісы, але і мастацкую літаратуру. Сябрыпісьменнікі прысылаюць мне свае выданні. Чытаю таксама гісторыка Улашчыка. Зусім нядаўна прачытаў у «ЛіМе» вельмі цікавы артыкул А. Каўко пра гісторыю беларускай літаратуры».

**Эмануіл ІОФЕ**

# Фотамадэлі, у літаратуру!

Кастынгі, дыеты, візажысты, буцікі, туфлікі ад Кензо — усё гэта падаецца бязмежна далёкім ад беларускай літаратуры, чужым ёй і... амаль варожым. Але сучаснасць багатая на неспадзеўкі, і чытач не памыліўся, калі ўжо прыгадаў імя крытыка, даследчыцы ды (вусціш!) фотамадэлі Маргарыты Аляшкевіч. Замест таго каб павініцца за недарэчны занятак, яна ў першай жа сваёй кнізе — «Мадэль для забойства» — весела распавядае пра прыгоды ды фотасесіі дзвюх беларускіх «місі» ў далёкай і непрадказальнай Японіі.

Калі адна з дзяўчат — Янагчка — ляціць у Японію па запрашэнні «мадэльнай агенцыі», то яе спадарожніца Агата напачатку мае іншую сферу дзейнасці: інтэрв'ю, рэдакцыя, бібліятэкі, кнігі... Літаратурная сітуацыя ў Японіі на дзіва нагадвае Беларусь, дык чаму б за сто долараў не прыкінуцца мадэллю? Гэта адбываецца выпадкова і ненадоўга: падчас жартоўнай фотасесіі Агату заўважае дызайнерка, якая бадзяецца па павільёне ў пошуку *вобраза*. Гераіням часта шанцуе, а яшчэ часцей не шанцуе, з імі здараюцца і прыгоды, і амаль казачныя цуды… Аўтар бесклапотна выдумляе самыя неверагодныя развязкі для сваіх гісторый: то Янагчка на рэзкім павароце выштурхоўвае Агату з мінівэна, то забівае калугном гожага хлопца Дэйва. Трэба ж мець нейкія падставы, каб назваць кнігу «Мадэль для забойства»! А на наступнай старонцы ўсе зноў жывуць і жартуюць, нібы нічога *насамрэч* не адбылося.




Вядома, усё адбываецца *не насамрэч*, аўтарка проста згадвае вясёлыя показкі, якія красуні распавядаюць адна адной, пакуль ім робяць макіяж ды педыкюр (калі, вядома, у гэты час увогуле можна размаўляць). Форма аповеду дазваляе адчуваць сябе свабодна: ён (аповед) адкрыты стыхіі смеху і сакавітай народнай мове — а гэта жарцікі, перабольшванні, прыказкі, моцныя слоўцы, анекдоты… Вядома, сёння народ немагчыма атаясаміць адно з вясковай бабуляй ці «мужыком-беларусам» — дзяўчатам-фотамадэлям таксама даводзіцца прэзентаваць сваю краіну.

Калі казаць пра мову, то ў М. Аляшкевіч атрымліваецца вельмі экзатычны мікс: гераіні размаўляюць па-беларуску, пра білінгвізм і інтэрферэнцыю яны, здаецца, ніколі не чулі, затое спрабуюць вучыць японскую мову і гавораць з іншымі па-англійску. Натуральна, у кнізе гучаць галасы мінакоў, прадавачак, замежных знаёмых, адкуль шматлікія транслітарацыі англійскіх і, радзей, японскіх слоў. А ў атачэнні *букераў*, *мафінаў*, *кэтвокаў* ды «*Старбакса*» ўзнікаюць беларускія выслоўі, прымаўкі, кленічы: «усё цяжэй было рэагаваць на дызайнерку, якая стаяла побач з фатографам і ўвесь час трымала палец ля вуснаў ды перад кожным кадрам прыгаворвала — смайл, смайл. Усміхнуся, каб табе чэрці ў пекле ўсміхаліся! Паскачу, каб табе на патэльні паскакаць!»

Мадэльны бізнес падаецца немагчымым без пікантных момантаў — і М. Аляшкевіч іх не ігнарує: дзяўчаты выбіраюць станікі, пераапранаюцца ў машыне, Дэйв мае звычку хадзіць пасля душа голым… Аўтарка паведамляе пра гэта проста і бадзёра, як пра нешта прышпільнае, але натуральнае. Яна не надзяляе гераінь цнатлівай узнёсласцю, але пазбягае пошласці, непрыстойнасцей і не імкнецца ўзбудзіць чытача падрабязнымі апісаннямі.

Агата і Янагчка шмат у чым адрозніваюцца між сабой. Янагчка гламурная, капрызлівая, не вельмі разумная бландзінка, для якой самае прыемнае ў жыцці — прымяраць і спалучаць новае адзенне. «Паводле яе ідэалу шчасця кожны выхад з дому ў краму мусіць завяршацца кучай пакупак, а сваёй сяброўцы яна, натуральна, зычыць шчасця. Як, безумоўна, і ўсяму свету». М. Аляшкевіч дадае ў гэты вобраз крыху сур'ёзнасці: у дзяцінстве Янагчка спявала ў царкоўным хоры, а збольшага яна смяшлівая, шчырая і ніколі не кіне сяброўку ў бядзе. Агата ж напачатку ставіцца да моды з варожасцю аскета, але хутка далучаецца да стракатага, мітуслівага свету сваёй сяброўкі. Чаму б хоць некалькі месяцаў не пажыць яркім, вясёлым жыццём, чаму б не напісаць пра гэта невялічкую кнігу, якую можна прачытаць хутчэй, чым самалёт даляціць з Мінска да Токія?

Вядома, у кнізе магло б быць менш агульных момантаў кшталту звыклага захаплення замежнымі прыбіральнямі і камічных эпізодаў са зборам валізкі. Але «Мадэль для забойства» не варта ацэньваць па нейкіх сур'ёзных крытэрыях — гэта яшчэ адна спроба напісаць тое, чаго бракуе сучаснай беларускай літаратуры, прынцыпова не разлічанай на Янагчку-чытача. Дык чаму б не стварыць для дзяўчатак-тынэйджараў казку пра добрых «дызайнерскіх геніяў» і прыгоды ў японскім метро? Аўтарка прынцыпова пазбягае ўсяго сур'ёзнага, складанага, важкага і імкнецца пісаць лёгка ды ярка. Сум па радзіме, зайздрасць да больш паспяховай сяброўкі, крыўда на хлопца, які *пасля ўсяго* заляцаецца да суседкі, — пра ўсё гэта паведамляецца ў некалькіх сказах. Калі героі больш дзейнічаюць, чым разважаюць, твор заўсёды атрымліваецца цікавым і дынамічным!

Кнігі такога кшталту ў першую чаргу абнадзейваюць: вось такая наша літаратура сучасная і разнастайная, усё ў нас ёсць, хай сабе ў адзінкавым экземпляры. І жывём, і пішам мы пазітыўна... Самае ж прыемнае ў кнізе М. Аляшкевіч — тое, што яе зусім не трэба набываць у кнігарні. «Мадэль для забойства» створана ў фармаце epub, і яе вельмі лёгка адшукаць у інтэрнэце. Проста знаходзь — і чытай!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Помнік пад вокладкай




Кнігу «Апалены золак. Слова пра Юрку, Коласава сына» разглядаць як аб'ект крытыкі нельга, бо гэта не мастацкі твор, але анталогія страты.

Гэта жыццеапісанне аднаго чалавека і разам з тым — усяго яго пакалення. Нават калі і ўзнікае час ад часу жаданне падправіць стыль тэкстаў-успамінаў, так бы мовіць, выраўняць яго, «падлітаратурыць», ты сам сябе за гэта дакараеш — з той простай прычыны, што не маеш права ні на якую, нават найменшую, праўку, нават у думках. Застаецца толькі чытаць і думаць. І выказаць падзяку Міколу Мятліцкаму за ўкладанне кнігі.

Адкрываецца яна «Радыёзваротам Якуба Коласа да сына Юркі (28.11.1942 года, Масква)». Цікава і разам з тым сумна назіраць, як пісьменнік мусіць падфарбоўваць сваю трывогу за сына грамадзянскім запалам. Натуральна, ён перажывае за лёс краіны, і ўсё ж, калі чытаеш яго слова пра Чырвоную Армію, «которая не дрогнула перед нашествием орд фашистского хищника» і «закалялась в кровавых непрерывных боях», разумееш — гэта плата за шанц быць пачутым, за шанц адшукаць сваё дзіця. Між радкоў, поўных баявога запалу, прарываецца яго страх, і калі ён заклікае сына і іншых салдат змагацца, ты выразна чуеш іншае: вяртайся хутчэй дадому.

Далей па старшынстве ідуць успаміны Данілы Міцкевіча, старэйшага брата Юрыя. Успаміны надзвычай лаканічныя. Многа больш фактаў, важных дробязей і эмоцый змяшчаюць успаміны Міхася Канстанцінавіча, выкладзеныя ў форме ліста да брата, так бы мовіць, «ліст наўздагон». Не менш цікава і тое, якім паўстае па-за словамі аўтар ліста. Спадар Міхась, якога ўсе ведаюць як чалавека сталага веку, багатага на досвед, іранічнага, раптамператвараецца ў маленькага хлопчыка, захопленага старэйшым братам, захопленага бяздумна і самааддана. З вялікай любоўю ён апісвае кожны ўчынак Юрыя, хоць той, як любы жывы чалавек, меў і недахопы. Напрыклад, калі судзіць па прачытаным, ён быў вельмі запальчывы, часам амаль жорсткі, любіў пажартаваць з іншых, але спакойна ставіцца да жартаў у свой адрас не ўмеў. Тыповыя рысы беларускага хлопца, я б сказала. Але і пра іх Міхась Канстанцінавіч распавядае з замілаваннем. Вядома, у людзях, якіх мы любім, усё прыўкрасна, і не можа быць іначай.

Калі сабраць раскіданыя па кнізе характарыстыкі Юрыя ў адну карціну, мы атрымаем партрэт прывабнага юнака, ладнага, высокага, які захапляецца паляваннем і добра страляе, які марыў стаць геолагам і ў рэшце рэшт быць карысным людзям. Ён шмат чытаў і займаўся адукацыяй малодшага брата. Парыцарску ставіўся да дзяўчат — і не толькі дзяўчат: заступаўся за слабога, цярпець не мог фальшу і несправядлівасці. Быў смелы, прамы, адсюль і гэтая гарачнасць, адсюль патрабавальнасць да іншых. Што яшчэ важна, па фотаздымках, змешчаных у кнізе, мы бачым: Юрый быў вельмі падобны да бацькі, у той час як два другія сыны відавочна ўнаследавалі матчыны рысы. Гэта толькі здагадка, але ў мяне склалася такое ўражанне, быццам менавіта ў Юрыю Канстанцін Міхайлавіч бачыў сябе маладога.

На гэтую кнігу, думаецца, ускладаліся тры місіі. Сям'я Міцкевічаў, рыхтуючы ўспаміны, варушачы застарэлы боль, тым самым узводзіла своеасаблівы помнік свайму страчанаму Юрку. Літаратуразнаўцы і даследчыкі творчасці Якуба Коласа, у прыватнасці, займелі яшчэ адну фактал агічную крыніцу. І трэцяе, на маю думку, самае галоўнае: кніга расказвае не толькі пра Юрыя Канстанцінавіча, але і пра ўсіх тых хлопцаў, такіх жа маладых, жывых, якія не вярнуліся; яна апісвае боль не толькі Міцкевічаў, але боль кожнага, хто страціў сына, брата ці сябра.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Выкапаць талент з зямлі

*Стихи бывают о погоде,*
*О том, как чувства бьют ключом,*
*О бузине, что в огороде,*
*И очень часто — ни о чём.*

Чатырохрадкоўе Міхаіла Уласенкі дае трапную ацэнку альманаху Магілёўскага аддзялення СПБ «Прыдняпроўе — край талентаў».

Кніга выйшла на цудоўнай паперы, у цвёрдай, прывабнай вокладцы. Абачлівыя ўкладальнікі не сталі называць альманах «Прыдняпроўе — край паэтаў» і абмежаваліся «талентамі». Сапраўды, у зборніку шмат прыкладаў гладкапісання, меней у ім твораў таленавітых, але і тыя — недапрацаваныя. Непатрабавальны чытач прыме ўсякі тэкст, дадзены да рыфмы і больш-менш роўны рытмічна. Але для каго ўкладалася кніга? Няўжо для гэтага самага чытача, падманаўшы густ якога, аўтар падманвае самога сябе?

Раз за разам, з верша ў верш мы бачым адно і тое ж. Не хапае яркага вобраза, свежага, непаўторнага, якім толькі і жыве паэзія. Узгадваюцца словы Гейнэ пра тое, што першы, хто параўнаў жанчыну з кветкай, быў вялікі паэт і ўжо другі быў ёлупам. Закрыўшы альманах, цяжка пазбавіцца ўражання, што ўсё гэта — перапеўкі адвечнай песні, пачатай сто гадоў таму. Думаю, знойдуцца аматары роднага слова, якія скажуць, што няхай гэта і не шэдэўры, але падтрымка роднай мовы, яе пашырэнне... Па-першае, калі б Купала і Колас даведаліся, што і праз сто гадоў будуць гучаць тыя самыя песні-жальбы, яны не дужа ўзрадаваліся б, ці не так? Падругое, з 48 аўтараў па-беларуску пішуць толькі 23. Самае ж крыўднае, што лепшы ў альманаху твор — апавяданне Анатоля Мельнікава пра хлопчыка-скрыпача — напісаны па-руску. І калі мастацкую недасканаласць яшчэ можна дараваць, то вульгарнасць і пошласць у некаторых тэкстах дараваць нельга.

Ні ў якім разе не маю на мэце абразіць аўтараў і падрэзаць крылы іх натхненню. Хачу, каб шаноўныя аўтары ведалі, што ёсць не толькі «наіўны» чытач, але і дасведчаны, і што да яго вы мусіце цягнуцца, для




яго мусіце працаваць, падцягваючы тым самым да больш высокага ўзроўню і сваё майстэрства, і шараговага чытача. У тым, што вы на гэта здольныя, няма сумнення.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# «Астрамечаўскі рукапіс»: здабыткі і перспектывы

**Сярод выданняў краязнаўчага кірунку ў апошні час усё большы аўтарытэт набывае рэгіянальны альманах «Астрамечаўскі рукапіс», які выходзіць у Брэсцкім раёне дзякуючы самаахвярнай працы журналіста і пісьменніка Аляксандра Валковіча. Ужо неаднойчы ў друку (найперш — у газетах «Літаратура і мастацтва», «Звязда») пісалася пра асобныя нумары гэтага выдання. Давайце паспрабуем болей падрабязна агледзець чарговы «пілот» на ніве краязнаўчай перыёдыкі.**

Месца выдання альманаха — Брэст, заснавальнікі — Брэсцкі раённы выканаўчы камітэт, аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Брэсцкага райвыканкама. Выходзіць штоквартальна пачынаючы з 2013 г. Усяго пабачыла свет чатыры нумары. Рыхтуецца пяты. Рэдактар і ўкладальнік — Аляксандр Валковіч. Існуе рэдакцыйная калегія альманаха. У выдання ёсць навуковыя кансультанты: доктар філалагічных навук прафесар А. Мальдзіс (Мінск), доктар філалагічных навук І. Швед (Брэст). Аб'ём першага нумара — 5,4 друкаванага аркуша, другога і астатніх — 8,1 друкаванага аркуша, 96 старонак. Альманах багата ілюстраваны.

У артыкуле «Уступнае слова ад імя рэдакцыйнай калегіі» старшыня Брэсцкага райвыканкама Уладзімір Мацука наступным чынам абазначыў стратэгію і задачы выдання: «Вы трымаеце ў руках першы нумар альманаха, які пабачыў свет дзякуючы падтрымцы і актыўнаму саўдзелу многіх людзей — ад кіраўнікоў абласной і раённай вертыкалі Берасцейшчыны да шараговай удзельніцы сельскага фальклорнага калектыву, захавальніцы народных традыцый, творчасці і майстэрства. Ад вядомага старшыні перадавога сельгаскааператыва або прафесара беларускай гісторыі і літаратуры — да загадчыка сціплага вясковага клуба і такога ж энтузіяста-бібліятэкара або майстрыхі-вышывальшчыцы. Ад універсітэцкага выкладчыка, ці школьнага настаўніка, або студэнткі-першакурсніцы — да самай малодшай удзельніцы дзіцячага танцавальнага гуртка ці ветэрана самадзейнага хору. Усе яны без выключэння прасякнуты шляхетнай ідэяй — захаваць шматвекавыя традыцыі беларускага народа, яго гісторыю, культуру, літаратуру, мову, мясцовыя гаворкі. І сваёй штодзённай, часам незаўважнай і альтруістычнай працай самаддана ўвасабляюць гэту ідэю ў жыццё, перадаючы творчыя навыкі, рамяство, майстэрства і назапашанае духоўнае багацце маладому пакаленню.

Мы назвалі зборнік «Астрамечаўскім рукапісам», уклаўшы ў гэтае азначэнне як аўтэнтычны, так і вобразны, збіральны сэнс. І зрабілі гэта не толькі з мэтаю аднаўлення гістарычнай справядлівасці ў адносінах найменняў і паходжання самога «Астрамечаўскага рукапісу», які некаторыя працягваюць памылкова называць «Полацкім сшыткам» і прагматычна выкарыстоўваюць у якасці сцэнічнага, творчага брэнда. Мы зрабілі гэта найперш дзеля таго, каб, абапіраючыся на нашу знакамітую астрамечаўскую першакрыніцу, працягнуць размову пра традыцыйную культуру Берасцейскага рэгіёна, перакінуўшы тым самым трывалы масток да сённяшняга дня.

Мы назвалі свой альманах краязнаўчым таму, што тэрмін «краязнаўства» ў нашым разуменні раўназначны паняццю «спадчына роднага краю», а гэтая высокая катэгорыя змяшчае рознабаковыя веды ў сферах традыцыйнай і сучаснай культуры і гісторыі. Заходзячы з гэтай трактоўкі, мы пастараемся данесці да шырокай грамадскасці цікавыя, а часам і ўнікальныя матэрыялы пра музычную, песенную, вусна-паэтычную, харэаграфічную, гістарычную, літаратурную спадчыну Берасцейскага краю і яго найяскравейшых прадстаўнікоў. Будзем рэгулярна расказваць пра традыцыйныя і сучасныя рамёствы, пра народныя таленты, якімі заўсёды будзе жывіцца Зямля Берасцейская…»

У працяг тэмы ўжо ў першым нумары альманаха патлумачваецца паходжанне вядомага рукапісу XVII ст. як «Астрамечаўскага рукапісу», а не «Полацкага сшытка» — і ў доказ гэтага друкуецца артыкул доктара філалагічных навук прафесара Адама Мальдзіса «"Полоцкая тетрадь"? Нет. "Остромечевская рукопись"? Да» (заўважым: альманах выходзіць на дзвюх мовах — беларускай і рускай). І далей змяшчаецца адказ дырэктара Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі доктара філалагічных навук А. Лукашанца старшыні СВК «Астрамечава» А. Скакуну: «… У склад рукапісу № 127/56 Ягелонскай бібліятэкі ўваходзіць старабеларускі ўніяцкі трэбнік, які быў у XVII ст. перапісаны ў вёсцы Астрамечава (цяпер — населены пункт Брэсцкага раёна Брэсцкай вобласці) і ў 1956 г. набыты бібліятэкай Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве, дзе захоўваецца і зараз…»

Тэма перайменавання помніка музычнай культуры, відавочна, на гэтым наўрад ці будзе вычарпана. І ўсё ж зварот да ўсталявання справядлівасці значыць вельмі шмат. Шкада, што на гэтую акалічнасць не звярнулі ўвагу рэцэнзенты, аглядальнікі першага і наступных нумароў альманаха. Іх выступленні ў перыядычным друку маглі б істотна пашырыць тэму.

Важнай характарыстыкай зместу часопіса, ды і ўвогуле яго стратэгіі, з'яўляюцца рубрыкі да матэрыялаў. Як і для любога перыядычнага выдання, рубрыкатар як пералік і парадак пастаянных ці перыядычных раздзелаў вылучае тэмы, спецыфіку і кірунак выдання. У чатырох нумарах «Астрамечаўскага рукапісу» налічваецца 20 рубрык. Іх назвы красамоўна адлюстроўваюць праблемна-тэматычнае поле альманаха: «Бацькоўскімі сцежкамі», «Старонкі гісторыі», «Дом рамёстваў», «Літаратурная сядзіба», «Кніжная зала», «З бабулінага куфра», «Кніжная зала», «Калаўрот культурнага жыцця», «Маладое дрэва»… Такі падбор рубрык дапамагае структурызацыі часопіса, настройвае чытача на паслядоўнае знаёмства са зместам.

Найболей моцнымі ў тэматычнай прасторы падаюцца публікацыі, звязаныя з асвятленнем фальклорных матэрыялаў. Магчыма, на гэта ўплывае і першасная ўстаноўка арганізатараў, стваральнікаў альманаха, і тое, што адным з яго навуковых кансультантаў выступае доктар філалагічных навук Іна Швед, якая ў выкладчыцкай, навуковай дзейнасці займаецца беларускім фальклорам. Ужо ў першым нумары ў рубрыцы «Чароўныя спевы спадчыны» пададзены яе артыкул «Крыніцы народнай духоўнасці і мастацтва». Аўтар з'яўляецца кіраўніком вучэбнай фальклорна-краязнаўчай лабараторыі Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна.

Асноўныя задачы лабараторыі — збор першаснай фальклорна-этнаграфічнай і літаратурна-краязнаўчай інфармацыі ў межах даследчых тэм «Фальклор Берасцейшчыны і іншых рэгіёнаў Беларусі» і «Літаратурная Берасцейшчына» падчас фальклорна-краязнаўчых экспедыцый і палявой практыкі, якую праходзяць студэнты філфака, а таксама апрацоўка і ўкараненне ў вучэбны і выхаваўчы працэс багатай фальклорна-этнаграфічнай і літаратурна-мастацкай спадчыны, распрацоўка вучэбна-метадычнага забеспячэння выкладання фалькларыстыкі, міфалогіі, вуснай народнай творчасці, гісторыі беларускай літаратуры, методыкі выкладання беларускай літаратуры і іншых дысцыплін, правядзенне фальклорных фестываляў і інш. І. Швед зазначае: «Нягледзячы на глыбокую цікавасць




фалькларыстаў, этнолагаў, этналінгвістаў розных краін да фальклору і этнаграфіі Брэсцкай вобласці, да гэтага часу адсутнічала перыядычная трыбуна для разважання рэгіянальных фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў, для прадстаўлення ў сучаснай інфармацыйнай прасторы вызначальных з'яў традыцыйнай духоўнай культуры Берасцейшчыны. Такія публікацыі стануць пасільным унёскам публікатараў у агульную справу выпрацоўкі канцэпцыі нацыянальнага мастацтва, актуалізацыі магутнага маральна-этычнага і эстэтычнага патэнцыялу берасцейскай традыцыйнай культуры, як інтэлектуальнай фундавасці, мастацка-эстэтычнай гармоніі і невычарпальных творчых магчымасцяў…»

У тым жа першым нумары падаюцца запісы з фальклорна-гістарычнай экспедыцыі студэнтаў Брэсцкага ўніверсітэта. Даследчыкі пабывалі ў вёсках Камянецкага і Брэсцкага раёнаў. У в. Астрамечава запісалі песні з рэпертуару Галіны Філінюк. У Чэрску запісвалі са слоў Ганны Сцепанюк. А далей надрукаваны запісы песень, зробленыя настаўніцай беларускай мовы і літаратуры Вольгай Неўдах з в. Скокі. Студэнтка Вольга Нічыпарук (праўда, ужо ў рубрыцы «Бацькоўскімі сцежкамі») не толькі прадставіла песні, пачутыя ад Кацярыны Качаноўскай, спявачкі з в. Гута, але і пазнаёміла чытача з народным выканаўцам праз невялікі ўступны нарыс. У другім нумары несумненную цікавасць выклікаюць запісы прыпевак з партызанскага, часоў Вялікай Айчыннай вайны, фальклору. Сямейна-бытавыя песні змешчаны ў трэцім нумары (запісы зроблены ад Еўдакіі Луцюк, 1923 года нараджэння, з в. Ляплёўка). Ёсць і падборка рэкруцкіх песень, і запісы скорагаворак на ўсялякі выпадак.

Студэнтка Аліна Баліцэвіч у в. Вялікія Матыкалы запісала шэраг цікавых гісторый у жанры народных апавяданняў. А ў № 4 уражвае матэрыял «Запаведныя словы ў сэрцы жывуць…», які нарадзіўся пасля сустрэчы з жыхаркай в. Скокі Надзеяй Славінскай. Жанчына ўсё жыццё вяла запісы малітваў, вершаў, песень, жыццёвых настаўленняў.

Літаратурнае краязнаўства прадстаўлена творчасцю мясцовых паэтаў і празаікаў. Друкуючы тэксты мясцовых аўтараў, публікатары вельмі ўважліва ставяцца да мовы арыгінала — дыялектных слоў і выразаў, аўтэнтычнасці тэксту.

Асобнае месца аддадзена турыстычнай тэме, асвятленню ўзаемасувязей краязнаўства і экскурсійнай работы. Гэтаму прысвечаны выступленні У. Іванова «Унікальная знаходка археолагаў у Скоках», «Заказнік "Прыбужскае Палессе"», «Берасцейшчына турыстычная», «Станцыя Дубіца — зорка кінастужак і гістарычны антураж» і інш.

Несумненна, творчы складнік «Астрамечаўскага рукапіса» патрабуе ўдасканальвання, мастацка-публіцыстычнага развіцця. Хацелася б бачыць паболей матэрыялаў мастацка-публіцыстычнага характару. Альманах — якраз тая медыйная і мастацкая прастора, дзе дастаткова месца для грунтоўных нарысаў. Тут не трэба абмяжоўваць карэспандэнцыяй, рэпартажам, хронікай турыстычнага ці краязнаўчага жыцця. Рэдактару, укладальніку альманаха, аўтарскаму актыву выдання варта пашырыць тэматычную прастору. Пры гэтым зусім не абавязкова мяняць канцэпцыю «Астрамечаўскага рукапісу».

Чаму б не расказаць пра знакамітых ураджэнцаў Брэсцкага раёна, якія засведчылі сябе добрымі справамі не толькі ў Беларусі, але і ў свеце? У в. Камароўка нарадзіўся касманаўт, генерал-палкоўнік авіяцыі, двойчы Герой Савецкага Саюза Пётр Клімук. Расповед пра яго мог бы быць пададзены ў звязку са зваротам да тэмы работы грамадскага музея касманаўтыкі ў Тамашоўскай СШ Брэсцкага раёна.

Праваслаўны епіскап Сафроній Магілёўскі і Мсціслаўскі нарадзіўся ў в. Кацельня-Баярская. Радзіма камандуючага 19-й агульнавайсковай арміяй Карэльскага і 2-га Беларускага франтоў генерал-лейтэнанта Георгія Казлова, які быў узнагароджаны ордэнам Леніна, тры ма ордэнамі Чырвонага Сцяга, ордэнамі Кутузава І і ІІ ступеняў, — в. Селяхі Брэсцкага раёна. Можна згадаць і шэраг іншых цікавых асоб, жыццё і дзейнасць якіх патрабуюць публіцыстычнага расказу.

Як істотную заўвагу да ўсіх нумароў «Астрамечаўскага рукапісу» хацелася б адзначыць адсутнасць яркіх мастацка-публіцыстычных тэкстаў. Відавочна, што выданне рыхтуецца ў большай ступені грамадскімі сіламі. Аўтарскаму складу нестае дасведчаных публіцыстаў. І падарожны нарыс, і нарысы-партрэты пра таленавітых землякоў, і яркія рэпартажы з сакральных мясцін сучаснай Берасцейшчыны — усё гэта магло б стаць упрыгожваннем старонак у цэлым вельмі цікавага, па-свойму адметнага выдання.

Краязнаўчы перыядычны друк, несумненна, патрабуе развіцця. Пры гэтым шляхі для пашырэння яго прасторы могуць быць рознымі. З аднаго боку — заснавальніцтва газет, часопісаў і альманахаў грамадскімі арганізацыямі. З другога — выдаткоўванне сродкаў з дзяржаўнага бюджэту на фінансаванне краязнаўчай перыёдыкі. Магчыма — праз шырокую арганізацыю падпіскі ў бібліятэчнай сетцы альбо ў сістэме школьнай адукацыі. Асаблівую ўвагу варта надаць мясцоваму краязнаўчаму друку. Чаму б не выпускаць, напрыклад, перыядычныя альманахі рэгіянальнага характару? Іх выданне маглі б арганізаваць супольна рэдакцыі раённых газет двух-трох ці болей рэгіёнаў.

Краязнаўчы друк патрабуе ўважлівага разгляду спецыялістамі — гісторыкамі, іншымі навукоўцамі. Чаму б рэгулярна не змяшчаць рэцэнзіі на гэтую тэму ў рэспубліканскіх ці абласных газетах? Дарэчы, да вырашэння такой задачы маглі б спрычыніцца і прафесійныя літаратары Брэстчыны: гістарычная тэма шмат каму з іх не чужая. Напрыклад, празаікам і публіцыстам Анатолю Бензеруку, Анатолю Крэйдзічу, Зінаідзе Дудзюк, Уладзіміру Сітуху і інш.

Важна зрабіць шматпланавую работу па выпуску краязнаўчай перыёдыкі агульнагрмадскай справай, надаць такім газетам, часопісам, альманахам сапраўднае творчае гарэнне. І гэта будзе толькі на карысць беларускаму асветніцтву ўвогуле.

Асобны клопат — фінансаванне альманаха. Спадзяюся, што ініцыятары яго выдання знойдуць паразуменне з пэўнымі дзяржаўнымі інстытутамі. Хацелася б, каб важная выхаваўчая, патрыятычная ініцыятыва берасцейцаў мела доўгае жыццё.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,**
**старшыня секцыі краязнаўства Саюза пісьменнікаў Беларусі**

*Унікальны праект*

# Традыцыі жывыя!

Такога аўтара, як Яўген Сахута, рады бачыць, бадай, у кожным айчынным выдавецтве. Яго кнігі выклікаюць нязменную цікавасць студэнтаў, аматараў беларускай традыцыйнай культуры, навукоўцаў. Гэтыя выданні не затрымліваюцца на паліцах кнігарняў, хутка знаходзяць месца ў хатніх бібліятэках чытачоў, стала займаюць самыя высокія пазіцыі ў рэйтынгах продажаў. Таму не дзіўна, што такі поспех прымушае даследчыка яшчэ больш старанна працаваць, рыхтаваць усё новыя даследаванні. Вось і сёння мы знаёмім чытачоў адразу з двюма новымі кнігамі Яўгена Міхайлавіча, якія фактычна адна за адной выйшлі ў розных выдавецтвах краіны.




## ЯРКАЕ І САМАБЫТНАЕ

Традыцыйнае народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва з'яўляецца і па сёння паўнавартасным складнікам нацыянальнай культуры Беларусі, вылучаецца яркай самабытнасцю, непаўторнасцю, захоўвае архаічныя ўяўленні народа пра Сусвет, навакольнае асяроддзе і яго ўпарадкаванне. Наша краіна захавала вялікі духоўна-творчы патэнцыял народнай мастацкай культуры, але пад уплывам глабалізацыі жыццё моцна змянілася ў характары і ладзе, што адмоўна паўплывала на сферу выкарыстання многіх самаробных прадметаў. Цяпер вырабы страцілі першаснае прызначэнне з-за незапатрабаванасці грамадствам, але працягваюць выконваць сваю мастацкую функцыю.

Яўген Сахута — вядомы беларускі даследчык у галіне сучаснага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і традыцыйных мастацкіх рамёстваў, доктар мастацтвазнаўства, прафесар. У сваёй навуковай дзейнасці ён звяртаецца да праблематыкі захавання, адраджэння і далучэння народнага рукатворнага мастацтва да сучасных мастацкіх працэсаў. Аўтар каля дзясятка манаграфій, шматлікіх артыкулаў у перыядычных выданнях і энцыклапедыях, ён мэтанакіравана вывучае тэорыю, гісторыю і сучасны стан беларускага народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Так, у новай кнізе **«Сучаснае народнае мастацтва Беларусі»**, што пабачыла свет у выдавецтве «Беларусь», сабраны і прааналізаваны бытуючыя сёння віды дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва, традыцыйныя мастацкія рамёствы і промыслы.

Вядома, жывая традыцыя існуе ў натуральным ландшафце, а не на паліцах музеяў. Таму пераважная большасць матэрыялу для кнігі сабрана Яўгенам Міхайлавічам падчас уласных экспедыцый па вёсках і гарадах Беларусі. Больш як 30 год вывучэння традыцыйнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў вандроўках аўтар фіксаваў дынаміку змянення форм, зместу і характару яго відаў за апошнія два стагоддзі. Разгледжаны заняпад мастацтва на працягу першай паловы XX ст. і адраджэнне ў апошнія два дзесяцігоддзі XX ст., стварэнне школ, майстэрняў, суполак мастакоў па аднаўленні такіх відаў мастацтва, як ткацтва, ганчарства, кавальства, апрацоўка дрэва. У многіх раёнах Беларусі традыцыя гэтых рамёстваў не перарывалася ці яшчэ былі людзі, якія маглі апісаць працэс стварэння артэфакта народнай культуры. І ўжо ў пачатку XXI ст. можна казаць пра пэўныя дасягненні ў галіне захавання і далейшага развіцця народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва з рэгіянальнымі асаблівасцямі.

Якім дзіўным гэта ні падавалася б, але сённяшняе адраджэнне народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, як і іншых шматлікіх праяў нацыянальнай беларускай культуры, адбываецца ў гарадскім асяродку. Калісьці гэтае мастацтва насычала ўвесь народны побыт, майстры імкнуліся аздобіць свае вырабы згодна з традыцыяй, да якой былі далучаны. Сёння ў большасці выпадкаў творы страцілі ранейшае прызначэнне і месца ў традыцыйным побыце, архаічныя рысы губляюць колішні сакральны змест. Нават самы павярхоўны погляд на становішча і характар сучаснага мастацтва сведчыць, што яно далёка не заўсёды адпавядае «класічнаму», як бы дакладна ні імкнуліся капіраваць форму і ўзоры твора.

Тут бачыцца актуальная праблема размежавання вызначэнняў «сучаснае народнае мастацтва» і «аматарская творчасць». Вельмі важна не блытаць гэтыя паняцці, усведамляць, што непрафесійны падыход да ацэнкі твораў прыводзіць да падмены сэнсаў, у выніку чаго размываюцца межы паміж традыцыйнымі і нетрадыцыйнымі відамі мастацтва.

Нельга абысці ўвагай і другасныя формы сучаснага народнага мастацтва або творчасці па яго матывах. Сённяшняя практыка «асучасніванні» традыцыйных узораў, механічнае выкарыстанне форм і дэкору для масавага выпуску твораў утылітарна-дэкаратыўнага прызначэння цяпер распаўсюджана шырока. Прадукцыя прадпрыемстваў мастацкіх рамёстваў і многіх майстроў займае, бадай, вядучае месца сярод твораў сувенірнага прызначэння.

Кніга Яўгена Сахуты «Сучаснае народнае мастацтва Беларусі» багата аздобленая якаснымі фотаздымкамі, зробленымі самім аўтарам. Сярод іх — жывыя партрэты народных майстроў, творы сучасных відаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, фота з рэгіянальных выставак і свят. Народнае мастацтва сёння вельмі прыкметная, пашыраная і разам з гэтым складаная, шматаспектная, неадназначная з'ява нацыянальнай культуры, якая і ў нашы дні бытуе і развіваецца ў розных відах, формах і праявах. Традыцыйнае мастацтва вызначаецца сваёй цэласнасцю, сінкрэтычнасцю, арганічнай сувяззю з побытам і жыццём народа. Але аднаго ўсведамлення каштоўнасці традыцыйнай народнай творчасці недастаткова, трэба прымаць меры па яго зберажэнні, адраджэнні, уключэнні ў сучасны культурны кантэкст, захоўванні архаічных рыс. І сённяшняя задача для яе захавання — стварэнне неабходных умоў для яе натуральнага бытавання ў грамадска-культурных рэаліях.

## САМАЕ СТАРАЖЫТНАЕ

Чарговая грунтоўная даследчая работа Яўгена Сахуты ў гэтай сферы ўвасобілася ў выданне **«Беларускае народнае ганчарства»**, што выйшла ў «Беларускай Энцыклапедыі імя П. Броўкі» і было ўпершыню прадстаўлена падчас XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Кніга дае комплекснае ўяўленне пра гэты від традыцыйнага мастацтва, гісторыю яго развіцця на тэрыторыі Беларусі, тэхналогію рамяства, асартымент і характар вырабаў. Асобная ўвага надаецца дзейнасці найбольш значных ганчарскіх асяродкаў. У дадатку да выдання — тэрміналагічны слоўнік, які дапаможа «навічкам» лепей разабрацца са значэннямі спецыяльнай лексікі.

Выданне традыцыйна для аўтара выдатна праілюстравана, да кожнага фота ёсць подпіс, што дапамагае наглядна вызначыць рэгіянальныя адметнасці і агульныя рысы ганчарскіх вырабаў.

Ганчарства займае адно з прыкметных месцаў сярод шматлікіх традыцыйных беларускіх рамёстваў. Гэты від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва мае багатую гісторыю, якая бярэ пачатак яшчэ ў глыбокай старажытнасці. Дзякуючы залежам гліны на тэрыторыі Беларусі, яе даступнасці і таннасці ганчарства атрымала шырокае распаўсюджанне. З яе вырабляўся разнастайны посуд, арыгінальныя мастацкія рэчы з сакральнымі функцыямі, музычныя інструменты. Праз свае глыбокія карані ганчарства захавала найбольш архаічныя рысы дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва, якія ў далейшым развіліся і паўплывалі на іншыя віды беларускага народнага мастацтва.




З цягам часу ўдасканальвалася тэхналогія вырабу твораў з гліны, ім надавалася аздабленне ў рэчышчы прыкметнай нацыянальнай своеасаблівасці праз сінтэз і ўзаемадзеянне з іншымі відамі дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва. Ганчарства шчыльна ўпісана ў агульную мастацкую сістэму беларусаў і разам з тым мае шмат агульных рыс з аналагічнымі вырабамі народаў, якія паўплывалі на фарміраванне нашага этнасу.

Працэсы ўрбанізацыі моцна падарвалі ўсе віды народнай культуры. Насычэнне рынку танным, практычным посудам прамысловай вытворчасці выклікала прыкметны заняпад ганчарнага рамяства. У выніку ў 1970-я гады засталося некалькі майстроў старэйшага пакалення. Сёння ганчарства разам з бачным адраджэннем мае пэўныя праблемы, звязаныя з перарываннем ганчарскай традыцыі, адсутнасцю спецыяльнай літаратуры і кампетэнтных майстроў-прафесіяналаў.

**Вячка КРАСУЛІН**

*На паліцы*

# Трэба было добра вучыцца




Новая кніга Сяргея Трахімёнка, несумненна, прывабіць увагу чытача і ў кнігарні, і ў бібліятэцы. У першую чаргу дзякуючы форме, у якую «ўпакавана» рознабаковая інфармацыя. Сяргей Аляксандравіч — майстар дэтэктыва. Менавіта да гэтага жанру адносіцца і раман «Геном Ньютана», што пабачыў свет у выдавецтве «Чатыры чвэрці».

Яго сюжэт развіваецца з выключнай хуткасцю, якая не дае чытачу часу адкласці кнігу ўбок. І нават калі чытач — жанчына, яна проста перагорне некалькі старонак з бясконцымі мужчынскімі дыялогамі (ведаем-ведаем, вы самыя разумныя на свеце), каб урэшце атрымаць адказ, — і не столькі хто ж насамрэч забойца, а ў чым была памылка колішняга бандыта, які вырашыў за грошы кардынальна змяніць лёс сваіх сыноў.

«Геном Ньютана» пабудаваны па класічнай схеме. Невядомыя выкралі сябра следчага Арсена Вартава. Сярод белага дня хітрасцю ўвайшлі ў кватэру, накінулі мяшок на галаву і некуды звезлі ў багажніку машыны. Пралічыліся ў адным: у дальнім пакоі засталася каханка Уладзіка Марозава, якая і паведаміла пра падзею сябру. Зразумела, што чакаць тры дні, як гэта звычайна робіцца, Вартаў не стаў.

Неўзабаве такім жа чынам знік і яшчэ адзін чалавек. Чаму ахвярамі сталі гэтым разам не бізнесмены, крымінальныя аўтарытэты? Каму і дзеля чаго спатрэбілася такім чынам выхапіць з паўсядзённага жыцця маладога фізіка і не вельмі маладога гісторыка, які шмат гадоў быў актыўным лектарам таварыства «Веды»?

Усё на свеце мае сувязь, але пакуль яна стане відавочнай, чытачу давядзецца пільна сачыць за мазаікай такіх розных па часе падзей, што маюць лёсавырашальнае значэнне для галоўных герояў «Генома…». Да гісторыі раскрыцця забойства аўтар дадае трошкі любоўнай інтрыгі, жаночых сутычак, анекдотаў — сумна не будзе. А перагарнуўшы апошнюю старонку, чытач уздыхне: «Трэба было бандыту Шчокіну лепей вучыцца ў школе…»

**Анастасія СЯМЁНАВА**

## Адначаснікі



**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# Святло не гасне

У маёй кватэры вісіць чорна-белы афорт: юнак глядзіць у акно, а на пярэднім плане — букет бэзу. Такім вось рамантычна-ўзнёслым настроем вясны і маладосці вее ад яго, хоць на малюнку няма ніводнай яркай фарбы. Юнак — гэта я, а мастак — Віця Стасевіч, сябра юнацтва, з якім я кантактаваў да нядаўняга часу, але меў неасцярожнасць падарыць яму сваю кнігу, дзе ў адным з персанажаў ён пазнаў сябе і сказаў, што... выкрэсlivae мяне з ліку сваіх сяброў. Далібог, я не падумаў, што можна так зрэагаваць на твор, у якім я хацеў перадаць паэзію высокага і светлага, настальгію па нашым Полацку, але, відаць, у нечым пераўраў са шчырасцю — і атрымаў тое, што атрымаў.

Але ні на імгненне не перастаў ставіцца да Віктара і яго творчасці так, як ставіўся заўсёды, — з глыбокім захапленнем і любоўю.

Можна было б многа расказаць пра нашы вандроўкі па вуліцах роднага горада, пра ціхія сумоўі ў падвале пяціпавярховіка, які Стасевіч ператварыў у сваю першую майстэрню, пра той чароўны водар саду ў вёсцы яго бацькоў на Барысаўшчыне, дзе пабываў упершыню падчас яго вяселля…

Не, не буду, бо адзін раз апёкся перад ім з гэтай шчырасцю і загадзя прашу прабачэння нават за тыя радкі, якія пішу зараз.

Але не магу не сказаць адно: тым, што нешта рабіў і раблю ў літаратуры, абавязаны нашым юначым гадам, ягоным афортам і гравюрам, ягонаму такому глыбакадумнаму і таямнічаму маўчанню…

Менавіта ў той імправізаванай майстэрні я ўпершыню слухаў з пласцінак Баха і Вівальдзі, глядзеў альбомы Босха і Пітэра Брэйгеля, чытаў лісты брата Ван Гога… Я і цяпер, калі заплюшчу вочы, — бачу паўзмрок, свечку, з якой сцякае воск, чую музыку…

Віця, напэўна, першы з полацкіх юнакоў майго пакалення, які адразу пасля школы паступіў на графічны факультэт у Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут, а выпускная работа — серыя графічных афортаў — атрымала прэстыжную прэмію на Усесаюзнай выстаўцы ў Маскве.

Яго талент прызнавалі і прызнаюць многія выдатныя майстры нашага выяўленчага мастацтва, крытыкі. А для мяне ён па-ранейшаму самы любімы мастак, хоць Мадыльяні і Красаўскаса, Суціна і Гагена, Ван Гога і Маціса, Філонава і Дэйнеку, Кашкурэвіча і Заборава, Селешчука і Цімохава і яшчэ з тузін геніяльных творцаў люблю не менш.

Але ён адтуль, з майго юнацтва, і столькі з ім перагаворана-пераказана...

Нават калі ён носіць крыўду да гэтай пары, я ўсё ж шчаслівы, што мы з ім — адначаснікі.

## Даляглядзі

# Пераклад — навука ці мастацтва?

Ужо не адно пакаленне перакладчыкаў, тэарэтыкаў і практыкаў, спрабуе адказаць на пытанні: ці магчымы дакладны пераклад выказвання, мастацкага твора з адной мовы на іншую? Пераклад — гэта навука, мастацтва ці проста рамяство? Ці можна навучыць перакладаць, асабліва літаратурныя творы? Менавіта гэтым аспектам справы была прысвечана I міжнародная навуковая канферэнцыя «Пераклад і перакладазнаўства ў XXI ст.: стан і перспектывы», што прайшла ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце. Яе ўдзельнікамі сталі выпускнікі гэтай ВНУ, лінгвісты, тэарэтыкі і практыкі перакладу з Беларусі і з-за мяжы.

У прывітальным слове дэкан перакладчыцкага факультэта МДЛУ Аляксандр Паніматка зазначыў:

— Гэтая канферэнцыя доўга планавалася, доўга задумвалася і рыхтавалася. Раней мы праводзілі толькі вузкаскіраваныя «круглыя сталы», падчас якіх спецыялістамі абмяркоўваліся актуальныя аспекты справы. Цяпер жа ў нашым універсітэце шмат што змянілася: прайшлі важныя працэсы распрацоўкі новых адукацыйных стандартаў, упершыню адкрыта практыка-арыентаваная магістратура па перакладах і перакладазнаўстве. На гэтай хвалі мы зразумелі, што ўжо гатовыя правесці такі буйны форум. Ён дапамока нам, з аднаго боку, пазнаёміць прысутных з сістэмай падрыхтоўкі спецыялістаў, якая ўжо існуе ў нашым універсітэце, падзяліцца інавацыямі, што мы выкарыстоўваем пры навучанні сінхроннаму, мастацкаму перакладу, а гэтыя кірункі хутка развіваюцца на нашым факультэце. З іншага — дасць магчымасць атрымаць новыя веды ад калег і ў далейшым пераняць нейкія метады працы.

Усе пытанні, што абмяркоўваліся падчас пленарнага пасяджэння і тэматычных «круглых сталоў» у межах канферэнцыі, можна ўмоўна падзяліць на два блокі: тэарэтычныя аспекты перакладу і яго практычны бок. Адметна, што меркаванні выступоўцаў адносна адказаў на асноўныя пытанні канферэнцыі разыходзіліся.

### ТЭАРЭТЫЧНЫ АСПЕКТ

Пазіцыю тэарэтыкаў перакладу, даследчыкаў унутранай формы моў выдатна выказала падчас свайго выступлення Зінаіда Харытончык, доктар філалагічных навук, прафесар:

— Пераклад — матэрыя надзвычай няўлоўная, якую можна назваць рознымі словамі. Калі мы кажам пра пераклад з адной мовы на іншую, я не пагаджуся з тым, што мы маем на ўвазе пераклад на мову як адзін і той жа код. Нямецкая, англійская, французская мовы ў маім уяўленні — гэта розныя коды. Гэта набор сімвалаў, якія маюць агульныя характарыстыкі, але адначасова і розныя ўласцівасці. Для мяне самай важнай праблемай дзейнасці перакладчыка з'яўляецца праблема перакладальнасці. Мы лічым магчымым адэкватны і эквівалентны пераклад з аднаго моўнага кода на іншы ці мы займаемся пошукам нейкіх набліжаных варыянтаў да таго, што выказана з дапамогай зыходнага кода? Прынцыповым з'яўляецца вызначэнне прычын, па якіх магчымасць перакладу становіцца спрэчнай, у той жа час імкненне пераадолець гэтыя цяжкасці ўздымаецца ў ранг прынцыповых. Дакладны пераклад — недасягальны ідэал, недасягальная мара. Але я пагаджуся з тым, што пераклад — гэта мастацтва і ён мусіць вывучацца хутчэй у межах мастацтвазнаўства, чым выдзяляцца ў асобную навуку. Гэта не зусім навуковая галіна, мне падаецца, што менавіта таму ў нас так мала дысертацый у перакладазнаўстве. І чакаць большай колькасці не даводзіцца.

Тэарэтычны аспект зразумелы: ідэальна правільнага і дакладнага перакладу не існуе, што абумоўлена рознасцю структур моў. Але як паразумецца людзям з розных краін, прадстаўнікам розных культур? Як нам пазнаёміцца з дасягненнямі літаратур іншых народаў, калі мы не валодаем іх мовамі? Натуральна, з дапамогай перакладу, як ні парадаксальна гэта гучыць. І менавіта спецыялісты-практыкі імкнуцца зрабіць працэс камунікацыі паміж людзьмі, народамі і літаратурамі як мага больш простым, як мага больш дакладна перадаць ідэі, выказаныя ў межах сказа, верша ці рамана.

### ПРАКТЫЧНЫ АСПЕКТ

Калі тэарэтыкі маюць права сцвярджаць немагчымасць перакладу, то практыкі проста абавязаныя кожным днём сваёй працы абвяргаць гэты пастулат. Па сутнасці, так яно і атрымліваецца. Пра падтрымку перакладаў мастацкай літаратуры з нямецкай мовы на беларускую і наадварот распавёў дырэктар Інстытута імя Гётэ ў Мінску Франк Бауман, з міжнароднымі праектамі Выдавецкага дома «Звязда» пазнаёміў прысутных намеснік дырэктара ўстановы Алесь Бадак, адметнасці фарміравання школы мастацкага перакладу ва ўніверсітэце Сарбона (Францыя) у сваім выступленні падкрэсліла прафесар Анн Кадэльфі-Факар, а магчымасць навучання студэнтаў перастварэнню літаратуры на розных мовах сцвердзіў кандыдат філалагічных навук Юрый Стулаў.

Адметна, што і адзін з асобных «круглых сталоў» у межах форуму быў прысвечаны абмеркаванню важных пытанняў мастацкага перакладу. Але каб разглядаць перспектывы развіцця галіны, трэба ведаць яе гісторыю і вытокі. Пра адметнасці фарміравання айчыннай школы перакладу распавёў кандыдат філалагічных навук Пятро Васючэнка:

— XII стагоддзе можна лічыць пачаткам нашай перакладной кніжнасці. А носьбітамі перакладу ў той час былі манахі-кніжнікі, якія ведалі і тэалогію, і розныя мовы, а перакладамі займаліся, каб задаволіць патрэбы царквы і дзяржавы. Першыя значныя змены ў гэтай парадыгме адбыліся ў XVI ст., калі Францыск Скарына пераклаў Біблію для народа, а традыцыя мастацкага перакладу набыла асветніцкі характар. У пачатку XX ст. вылучаюцца «нашанiўскі» і «маладнякоўска-ўзвышшаўскі» перыяды. Адпаведна перакладчыцкія стратэгіі гэтага часу арыентаваліся на «нашаніўскія» дактрыны, выказаныя Вацлавам Ластоўскім і Максімам Багдановічам. Гэта вядомы тэзіс Багдановіча пра неабходнасць упісваць беларускую літаратуру ў кантэкст сусветнай і выказванне Ластоўскага з кнігі «Што трэба ведаць кожнаму беларусу». Веданне замежных моў Власт лічыў патрэбным для таго, каб несці людзям сваё, каб браць лепшае ад іншых.

У часы «Маладняку» пераклад быў пераацэнены, важкай стала ўстаноўка пісаць лепш, ствараць літаратуру, якой няма ў іншых народаў. Тады і прыйшло разуменне: пераклад твора на нашай мове становіцца нашым творам. У гэты час з'явілася нове літаратурнае амплуа (следам за Багдановічам) — паэт-перакладчык. Да прыкладу, Уладзімір Дубоўка і Юрка Гаўрук былі адначасова выдатнымі паэтамі і перакладчыкамі.




Наступныя змены назіраюцца ў канцы 1940-х, калі з'явіўся Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў (цяпер МДЛУ), а гэта кузня, дзе адбывалася падрыхтоўка будучых перакладчыкаў. У той час, калі беларуская мова тут зусім не выкладалася, калі звярталася ўвага толькі на нашу літаратуру, з гэтых сцен выйшлі прадстаўнікі новага пакалення беларускага перакладу, да прыкладу, Эдзі Агняцвет. Гэты перыяд можна назваць часам асваення літаратурнай класікі, калі было перастворана па-беларуску практычна ўсё самае істотнае ў сусветнай літаратуры. З'явілася і сваё няпісанае правіла: перакладаць на беларускую мову толькі тое, што ўжо раней перастваралася па-руску. Значыць, гэты твор апрабаваны ўжо, ён можа зацікавіць і беларускага чытача. З цягам часу ўсталявалася еднасць перакладчыцка-выдавецкага працэсу. Выходзілі серыі «Скарбы сусветнай літаратуры», «Майстры замежнай прозы», з'явіўся альманах «Даляглядзі», які мог бы стаць выдатным літаратурным часопісам. На яго старонках друкаваліся не толькі пераклады, але і тэарэтычныя артыкулы.

Наш час таксама можна назваць часам змены парадыгмы. Пераклад цяпер выконвае новыя функцыі — культураахоўчую і камунікатыўна-рэпрэзентатыўную. Менавіта пераклад дае магчымасць прадстаўляць маленькую нацыю ў сям'і іншых, дазваляе маленькай культуры стаць часткай вялікага свету. Адметна, што сёння перакладчыкі ўсё часцей ведаюць замежную мову і працуюць з арыгінальнымі тэкстамі, хоць практыка працы з падрадкоўнікам усё яшчэ захоўваецца.

Нягледзячы на тое, што перапынілася традыцыя з'яднанасці перакладчыцкага і выдавецкага працэсаў, адсутнічае адмысловае літаратурна-мастацкае выданне, мы назіраем станоўчыя перспектывы. Ужо колькі год у інтэрнэце выходзіць спецыяльны часопіс «Прайдзісвет», наладжваецца супрацоўніцтва з выдавецтвамі.

І сапраўды, шмат станоўчых працэсаў адбываецца ў сучасным перакладазнаўстве, тэарэтычным і практычным: перастварaюцца песні, вершы, раманы, кнігі для дзяцей. Але важна памятаць значнасць перакладу не толькі з замежных моў на беларускую, але і з беларускай на замежныя, каб прадставіць нашы дасягненні, нашу культуру ва ўсім свеце. У наступным выпуску «Кніжнага свету» мы працягнем гэту гутарку разам з прафесарам універсітэта Сарбона Анн Кадэльфі-Факар (Францыя).

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Зямное ды нябеснае

Назваць Боба Марлі, ямайскага музыканта, заснавальніка стылю рэгі, толькі надзвычай папулярным і паспяховым творцам было б вялікай памылкай. Справа нават не ў тым, што ён стаяў каля вытокаў гэтай музычнай філасофіі, меў неверагодны талент і ўмела спалучаў музычную адоранасць з рэлігійнай экстатычнасцю, але ў тым, што разам з ідэямі, выказанымі ў песнях Растафары, прапагандаваў незалежнасць Ямайкі, развіваў яе культуру.




Не так даўно прыхільнікі Боба атрымалі выдатны падарунак — ілюстраваную біяграфію *Bob Marley,* што пабачыла свет пры падтрымцы ТАА «Харвест». Гэтае выданне Марціна Андэрсена змяшчае калекцыю з дзвюх соцень класічных, рэдкіх і не публікаваных раней фотаздымкаў, якія крок за крокам распавядаюць пра жыццё і творчасць куміра цэлых пакаленняў.

Многія даследчыкі сучаснай музыкі, журналісты і крытыкі спрабавалі патлумачыць надзвычайную абаяльнасць творчасці Боба Марлі простай канстатацыяй яго таленту, незвычайным пачуццём рытму, здольнасцю спалучаць словы ў неверагодны рытмічныя групы. Але, думаецца, разгадка хаваецца ў іншым: Марлі меў рэдкі дар узнаўляць у песнях не асабістую, але ўніверсальную ісціну. Нехта адзначыць падабенства творчасці музыканта з рэлігійнымі гімнамі, бо яны даюць магчымасць дзяліцца містычным досведам, выказваць ідэі больш шырокія, чым проста ўласныя перажыванні. І не памыліцца. Ды спевы Марлі — гэта не толькі рэлігія, гэта выдатнае спалучэнне «зямнога» і «нябеснага». Яго музыка цалкам зямная, але не свецкая, ён спрабуе быць тым самым медыумам, чыя мэта — патлумачыць вечныя законы зразумелай мовай.

Менавіта таму кожны, хто ўпершыню знаёміцца з музычнай спадчынай Боба Марлі, мусіць найперш пазнаёміцца з гісторыяй Растафары. Нельга ўспрымаць яе толькі як частку поп-культуры. Нельга не звяртаць увагі на містычны досвед творцы. Іншымі словамі, чалавек, які знаёміцца з песнямі Марлі без іх кантэксту, рызыкуе ў лепшым выпадку ўспрыняць спевака як чарговага палітычнага анархіста ў шэрагу моладзі 1960-х, між тым гэта ў першую чаргу духоўны лідар і візіянер, роўных якому сёння не ведае рок-н-рол.

Марлі быў сапраўдны легендай цэлага народа, асобай дзяржаўнага маштабу і жывым прарокам — не ў пераносным, а ў прамым сэнсе. Нават уласным прыкладам ён паказаў вернасць сваім ідэям, прыхільнасць да Растафары. Гуляючы ў футбол, Марлі пашкодзіў палец, праз некаторы час у яго была дыягнаставана злаякасная меланома, але музыкант адмовіўся ад аперацыі: па перакананнях Растафары, цела чалавека павінна быць «цэлым», не пашкоджаным аперацыямі. Больш за тое, ён баяўся, што пасля ампутацыі пальца не зможа гэтак жа добра рухацца на сцэне, страціць сваю непаўторную пластыку рухаў. Хвароба развівалася досыць хутка і праз некаторы час распаўсюдзілася на мозг. Марлі лячыўся ў Германіі. Калі зразумеў, што не выратуецца, папрасіў адвезці яго на радзіму. Ямайкі так і не пабачыў...

Дзень яго пахавання, 11 мая 1981 года, па сведчаннях відавочцаў, быў самым сумным днём ва ўсёй гісторыі сучаснай Ямайкі. У краіне была аб'яўленая нацыянальная жалоба. На цырымоніі прысутнічалі лідары кіруючай партыі і апазіцыі. А варту ля труны неслі вайскоўцы. Яму было ўсяго 36 гадоў. За сваю паспяховую музычную кар'еру Марлі зарабіў шмат грошай, але не клапаціўся пра багацце і не пакінуў завяшчання. Большую частку спадчыны атрымала яго жонка Рыта. Пасля смерці мужа яна паспрабавала заняць і яго месца на сцэне, назваўшы сябе каралевай музыкі рэгі. Але, пагадзіцеся, гэта ўжо не зусім тое.

**Юзэфа ВОЎК**

**Даведка «ЛіМа»**

*Растафары — афраамерыканская рэлігія, якая ўспрымае апошняга імператара Эфіопіі Хайле Селасію Першага як рэінкарнацыю Бога, якога называюць «Джа». Гэтае вераванне ўзнікла сярод чорных беднякоў Ямайкі ў 1930-я гг. і сёння налічвае больш як мільён прыхільнікаў. Адметна, што Растафары (самі вернікі адмаўляюцца ад суфіксаў –ізм і –янства) — пэўнага кшталту спалучэнне іўдаізму з элементамі хрысціянства, яго яшчэ называюць «чорны іўдаізм». Магчыма, у гэтай хрысціянска-іўдзейскай сутнасці Растафары заключаецца і поспех музыкі Марлі. Яна зразумелая, блізкая многім, яна застаецца жывой, як запавет прарока. Адметна, што Растафары пры вялікай павазе да мовы адмаўляюць існаванне пісанай дактрыны — нейкіх свяшчэнных тэкстаў. А можа, музыка Боба Марлі якраз і мае права звацца духоўным пастулатам вернікаў.*

# Любовь и прочие неприятности

Книга Анны Джейн «Музыкальный приворот», которая вышла в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», — сладкий коктейль из романтики, юмора и хитросплетений сюжета.




Лёгкое чтение, подходящее для конца рабочего дня, помогает отвлечься от будничной суеты и почувствовать себя 16-летним подростком, готовым на безумные поступки во имя большой и прекрасной любви. Как рукопись, появившаяся в интернете, приобрела статус популярного молодёжного романа и обзавелась целой армией преданных поклонников? Если верить автору, русской девушке под американским псевдонимом, у каждого в голове есть тараканы, количество которых варьируется от одного до тринадцати. Безобидные на вид, но весьма коварные существа, «отвечающие» за плохое настроение и дурные привычки, при виде увесистого томика «Музыкального приворота» в ужасе разбегаются. Дело в том, что книга, несмотря на простой стиль, лишённый литературных изысков, — прекрасный источник доброго расположения духа.

«Началось всё с того, что полгода назад мы всего лишь вместе посмотрели телевизор», — признаётся в начале романа его главная героиня Катрина, скромная и спокойная девушка, но из довольно необычной семьи. Ее отец создаёт авангардные картины, поражая всех сочетанием психоделики, иронии и безграничной фантазии, дядя разбирается в моде не хуже Ива Сен Лорана, работает дизайнером и готовит как бог, брат целыми днями сидит за компьютером, а сестра помешана на аниме. Но виновницей разрушения уютного маленького мира Катрины, проводящей большую часть времени дома и в университете, оказывается её подруга Нина. Милое и хрупкое на вид создание с манерами чистокровной стервы и словарным запасом бывшего заключённого, втягивает девушку в запутанную, длинную и почти детективную историю.

«Если бы Нинку прослушивали инопланетяне-агрессоры, они бы точно не посмели напасть на нашу планету, подумав, что её населяют жуткие и неприятные существа», — отмечает автор книги. И вдруг этой взбалмошной и самоуверенной особе вздумалось заколдовать известных рок-музыкантов. Каким образом? Да легко, ведь в её родном городе живет интеллигентная деловая леди, занимающаяся профессиональным колдовством. Кто бы мог подумать, что когда связываешься с элитным экстрасенсом, обитающим не в пещере, увешанной амулетами и изваяниями духов, а в шикарном современном доме, то обязательно всё пойдёт не так, как планировалось? В Катрину, непричастную к магическим ритуалам Нины, влюбляются сразу два абсолютно разных парня, одного из которых хотела приворожить её подруга. Нет, девушки не становятся врагами, наоборот, продолжают бороться с неприятностями вместе. А ещё говорят, что женской дружбы не бывает!

Каждый персонаж в романе — яркий и запоминающийся, словно фейерверк, да ещё со своей историей и уникальным взглядом на мир. Возможно, без многословных описаний книга стала бы более компактной и увлекательной. Если честно, примерно на середине произведения возникает желание пропустить пару-тройку страниц и перейти, наконец, к развязке. А там читателей ждет сюрприз: первая часть «Музыкального приворота» заканчивается, по всем правилам бразильских режиссёров, на самом интересном месте. Правда, переживать не стоит, ведь у романа уже есть продолжение.

**Мария ВОЙТИК**

# Ночной гений

Книга Кэт Кроули «Лунное граффити», появившаяся в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», повествует о свободном художнике, которого называют Тень, и девушке Люси, разыскивающей неуловимого райтера.




Это история о творчестве, не скованном рамками предрассудков и правил, и о любви, у которой, кроме расстояний и времени, нет преград. Рассказ ведётся в основном от лица двух героев. Правда, некий таинственный Поэт «вклинивается» в книгу со своими опусами. Перевод и суть стихов явно уступают качеству прозы. Судите сами: «У парня на бензоколонке в волосах львиный рык. Виснут патлы засаленные, к телу прилипла похабщина. Он не помнит, как получилось, что его дневная жизнь утрачена».

Совсем иначе звучит признание Люси: «Я хочу столкнуться с Тенью, пусть даже от удара наши мысли разлетятся по Вселенной — мы подберём их и вернём друг другу, как груды сверкающих камешков». Вспоминается почему-то «Маленький принц» Антуана де Сент-Экзюпери… Но вернёмся к сюжету. Девушка не подозревает, что тот, кого она ищет, — совсем рядом. Читателям остаётся выяснить, встретится ли она со своим избранником во власти лунного света, когда ночь стирает границы и превращает людей в призраков.

Тень создаёт не просто граффити, он рисует картины, в которых каждый узнаёт себя, образы, оживающие от прикосновений и взглядов. «Дотрагиваюсь до рисунка и уношу в руках чистое голубое небо», — изумляется главная героиня и видит на стенах сердца, расколотые землетрясением, и птиц, снующих по кирпичу в надежде упорхнуть. Книга с потрясающей точностью передает атмосферу городского искусства, главное в котором — самовыражение: «Я стремительно распыляю небо…Краска течёт, и мир, пульсирующий во мне, с криком летит наружу… Увидьте меня, на стене я весь, до последней капли». Книга «Лунное граффити» должна быть оценена теми, кто не боится своей индивидуальности и прислушивается к собственной душе.

**Мария ВОЙТИК**

## Маладзічок



«Фабрыка добрага настрою» — такую назву мае зборнік казак маладога і таленавітага беларускага пісьменніка Дзмітрыя Саўчыка. Кніга пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда», яна прасякнута дабрынёй і цеплынёй, напоўнена яркімі ілюстрацыямі. Казкі пакідаюць у душы радасць і спакой, прымушаюць нават самага сур'ёзнага чытача хоць на імгненне паверыць у цуд. А дзецям тым больш павінна спадабацца!
Пра сваю дэбютную кнігу, любоў да казак і дзяцей карэспандэнту «ЛіМа» распавёў сам аўтар, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, стыпендыят спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі Дзмітрый Саўчык.

# Творца, якому сняцца казкі

**— Дзмітрый, мне кніга вельмі спадабалася — прачытала яе на адным дыханні. Гэта ваш дэбют у літаратуры?**

— Так, гэта першае выданне. Дзякуй! Але дагэтуль часта друкаваўся ў часопісах «Незнайка», «Рюкзачок». За 5 гадоў выйшла каля 100 казак. А потым я іх сабраў, дадаў новых і зразумеў, што ад часопісных старонак трэба пераходзіць да ўласнай кніжкі.

**— Дарэчы, ці падабаецца вам, якой у выніку атрымалася «Фабрыка добрага настрою»?**

— Яна проста шыкоўная, я ў захапленні. Калі атрымаў гэтае выданне, доўга не мог на яго наглядзецца, усё трымаў у руках. І ад чытачоў таксама чуў самыя пазітыўныя водгукі.

**— Вы пішаце выключна для дзяцей?**

— Так. Раней я таксама пісаў для дзяцей, але крыху старэйшага ўзросту. Гэта былі казкі-аповесці на беларускай мове ў стылі фэнтэзі. Дарэчы, ужо рыхтуецца да выхаду мая кніжка менавіта такіх твораў. А вось «Фабрыка добрага настрою» прызначана для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту.

**— Гэта складана — пісаць для дзяцей?**

— Не ведаю (*усміхаецца*). Я атрымліваю задавальненне, калі пішу казкі. І лічу так: кожны чалавек павінен знайсці занятак, у якім ён будзе мець максімальны поспех, да якога мае прыродны дар. Я адчуваю сябе натуральна, калі складаю казкі. Часта бачу іх ува сне, а калі прачынаюся, занатоўваю ў вялікі сшытак — ён ляжыць каля ложка.

**— А дарослым вашы казкі падабаюцца?**

— Ёсць некалькі блізкіх людзей, якія заўсёды першымі іх ацэньваюць. Часта ад іх чую добрыя словы, што вельмі прыемна. Імкнуся да таго, каб казкі былі зроблены на самым высокім узроўні. Літаратура не мае права быць пасрэднай або недапрацаванай. Якасць, памножаная на працу, дае поспех.

**— Хацелі б паспрабаваць сябе ў іншых жанрах, напрыклад, пісаць вершы, аповесці, раманы?**

— Раней я пісаў вершы. У мяне былі і вялікія творы. На дадзены момант я спыніўся на казках, але хто ведае, што будзе далей...

**— Мне здаецца, па вашых казках можна ствараць выдатныя мультфільмы.**

— Я пра гэта мару! Але бачу свае казкі ў стылі савецкіх мультфільмаў, дзе ўсё па-добраму, проста, але пры гэтым вельмі душэўна. Простасць і душэўнасць я лічу асабліва важнымі сёння, калі кароткімі казкамі мала хто з пісьменнікаў займаецца. Большасць творцаў звяртаюць увагу на вялікія творы ў жанры фэнтэзі або казкі-серыялы.

**— А мэта ў вашых казак ёсць?**

— На мой погляд, яны павінны выхоўваць у чалавеку не толькі маральныя каштоўнасці, але і вучыць яго марыць.




Казка запальвае ў сэрцы маленькага чалавека мару пра цуд, якая застаецца на доўгія-доўгія гады. Мы сталеем і ўсё менш марым, менш верым у цуды, становімся рэалістамі. І менавіта казка, калі яна ў дзяцінстве трапіла ў сэрца, потым, як зярнятка, прарастае верай у цуд. А гэта вельмі ўпрыгожвае жыццё і нават робіць яго больш шчаслівым, таму што самая вялікая каштоўнасць для чалавека — гэта, упэўнены, мара.

**— Што натхняе вас на напісанне казак?**

— Многае. Да мяне прыходзяць ідэі, калі слухаю музыку, калі разглядаю якуюнебудзь карціну, чытаю нейкі твор ці проста шпацырую па вуліцы... Дакладна ведаю, што казкі атрымліваюцца цудоўнымі тады, калі ў жыцці пісьменніка ёсць гармонія, калі ў яго добрыя адносіны з блізкімі людзьмі, калі добра ідуць справы і ў сэрцы няма ні турбот, ні хвалявання.

**— Мабыць, вы вельмі любіце дзяцей?**

— Так. Я, па шчырасці, і сам адчуваю сябе ў душы маленькім хлопчыкам. Мой погляд на некаторыя рэчы, на жыццё наіўны: я па сёння веру ў цуды! Магу сказаць, што калі размаўляю з дзецьмі, у нас поўнае ўзаемаразуменне па многіх пытаннях. Я стаўлюся да іх як да дарослых. І гэта вельмі важна: дзіця пранікаецца да цябе даверам. Таму і казкі свае імкнуся ствараць не як яркія фанцікі, абгорткі ад цукерак, штосьці малазначнае. Лічу, што казкі — вельмі дарослы, асэнсаваны жанр.

**— Памятаеце час, калі пачалі іх пісаць?**

— Гэта было ў дзяцінстве, так даўно, што ўжо і не памятаю, калі. Першай маёй публікацыяй была казка «Маленькі лясун».

**— А што далей?**

— Гатовы працягваць друкавацца: запрашаюць выдаць кнігі і ў беларускіх, і ў расійскіх выдавецтвах. Ёсць развіццё, і я гэтаму вельмі рады!

**Марыя ГАЛУБЦОВА**

# Стань шчаслівым!

Маюцца на ўвазе хлопчыкі і дзяўчынкі дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту, якія толькі пачынаюць жыць. Канечне, іх запатрабаванні шмат у чым розняцца ад тых, што ў дарослых. Але і «чамучкам», безумоўна, таксама хочацца адчуваць сябе шчаслівымі, хоць для гэтага ім нібыта няшмат трэба. Ва ўсякім разе, аднаму з герояў новай кнігі Ніны Галіноўскай, што выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда». Хлапчук упэўнены, што ўжо дасягнуў таго, чаго хацеў. Кніга так і называецца: «Калі я шчаслівы».




Радасць хлопчыка зразумелая. Тое, пра што ён расказвае, — частка яго паўсядзённага жыцця, акрайчык свету, у якім ён жыве. Пад пяшчотнае Маленства патрапляе многае. Вось пра што расказвае Н. Галіноўская ў сваім новым паэтычным зборніку.

Атрымаўся ж ён на дзіва змястоўны і цікавы, у чым лёгка ўпэўніцца адразу пасля знаёмства з яго кампазіцыяй. Што ні раздзел, дык, па сутнасці, тэматычна завершаная кніга, падарожжа ў свет дзівосаў.

Узяць, да прыкладу, першы — «Наша дружная сям'я. Запрашаю ў госці я». Творы, што ўвайшлі ў гэты раздзел, дасціпныя, займальныя, а асобныя і з непрыхаваным гумарам. Многія з іх адметныя, як і ўвогуле кніга «Калі я шчаслівы», тым, што напісаны ад першай асобы. Па сутнасці, прамаўляе не аўтар, а сам хлапчук, якому таксама да ўсяго ёсць справа і які не толькі звяртае ўвагу на тое, што яго хвалюе, цікавіць, а часам нават, як дарослы, можа паіранізаваць з сябе. Як у чатырохрадкоўі «Мячык»:

*Купілі мне мячык.*
*Прыйдзі паглядзець.*
*Ён скача, як зайчык,*
*А я — як мядзведзь.*

А гэта ўжо раздзел «Любім жарты, небыліцы. Будзем разам весяліцца». Дый як ні павесяліцца, калі у творах, што склалі яго змест, так шмат дасціпу. Напрыклад: «Едзе месячык на хмарках. // Эх, імчацца яны шпарка! // Хмаркі, хмаркі, асцярожна, // Так і месяц скінуць можна!» («Месяц»), ці: «Прыбегла мышка ў магазін: // — Прадайце званочак адзін. // — Навошта? // — На шыю катку, // Каб чуць, у якім ён кутку» («Званочак для ката»), альбо: «Ты чаму, шаноўны грак, // Носіш чорны-чорны фрак? // — Не хачу, — гаворыць ён, — // Быць падобным на варон» («Грак»).

Па-свойму арыгінальнымі, удала скампанаванымі атрымаліся і раздзелы «Запрашаем у дзетсад. Павітайце дашкалят», «Так цікава з баем — казачкі ён бае» і «Любою парою года люблю цябе, прырода». Пабываўшы ж у «дзетсадзе» Н. Галіноўскай, пры усім іншым, можна развучыць і «Дзетсадаўскія прыпеўкі». Наўрад ці ў каго яшчэ з дзіцячых пісьменнікаў знойдзеш гэты жанр, а тут — калі ласка: хочаш — чытай, хочаш — завучвай. На апошнюю мажлівасць, думаецца, звернуць увагу выхавальнікі дзіцячых садкоў і з задавальненнем развучаць гэтыя прыпеўкі з дзеткамі. Гледачы і слухачы застануцца ўдзячнымі.

Прыемна, што кніга «Калі я шчаслівы» аформленая з густам, пра гэта парупілася вядомая мастачка Галіна Хінка-Янушкевіч. Так што дзякуючы і ёй, і Ніне Галіноўскай дзеткі стануць яшчэ больш шчаслівымі.

**Віталь ЛОСІКАЎ**

# З чароўнай краіны

Прыемная падзея напаткала маладую беларускую пісьменніцу Кацярыну Хадасевіч-Лісавую: пабачыла свет яе трэцяя па ліку кніга «Казкі Сіняй падушкі». Праўда, прызнаемся шчыра, гэта радасць не толькі для аўтаркі, але і для маленькіх чытачоў, якія маюць магчымасць пазнаёміцца з гэтай неверагодна цікавай і займальнай казкай.

Кацярына Хадасевіч-Лісавая па адукацыі настаўнік пачатковых класаў. Жыве і працуе ў Ждановічах. Свае творы яна піша для дзяцей і пра дзяцей. Магчыма, вы ўжо знаёмыя з яе кнігамі «Падарожжа ў Чароўны лес» і «Касмічная адысея хлопчыка Стасіка».

Перагарнуўшы колькі старонак новай кніжкі, чытач даведаецца пра гісторыю стварэння Сіняй падушкі. А было вось як… Маленькаму хлопчыку Стасіку бацькі купілі новы ложак. Ну, зразумелая справа, спатрэбіліся таксама новыя коўдра, прасціна і падушка.

Да выбару падушкі хлопчык паставіўся з вялікай адказнасцю. Але, прыйшоўшы з мамай у краму, засмуціўся: яму там нічога не спадабалася. Стасік вельмі хацеў падушку нябесна-сіняга колеру. Добрую параду дала прадаўшчыца: яна параіла набыць спецыяльны напаўняльнік і зрабіць падушку самім — такога колеру, які падабаўся малому.

Падушка была пашыта, і вось надышоў час класціся спаць. Якое гэта шчасце для дзіцяці — засынаць у новым ложку і на новай, зробленай сваімі рукамі падушцы. Да гэтай прыемнасці дадалася яшчэ адна — знаёмства з камячком з напаўняльніка Пухлікам. Ён, аказваецца, цяпер жыве ў Сіняй падушцы. З гэтага часу кожную ноч Стасік разам са сваім новым сябрам здзяйсняе неверагодныя вандроўкі ў самыя незвычайныя мясціны.




Дзесяць казак сабрана пад вокладкай кнігі. Кожная з іх пераносіць маленькага чытача ў чароўны свет. Галоўныя героі Стасік і Пухлік вандруюць па Вясёлкавай і Кветкавай краінах, а таксама Віртуальным горадзе... Кожнае падарожжа прыносіць ім цікавыя знаёмствы, вельмі часта Стасік і Пухлік прыходзяць на дапамогу сваім новым сябрам. У Вясёлкавай краіне, напрыклад, разам з яе жыхарамі малыя стваралі новую вясёлку, таму што старую ў іх скраў кароль краіны Хуліганіі Злодзеюш Бандытавіч, а яшчэ хлопчыкі ратавалі ад цмока маленькую дзяўчынку Сафію, за што потым атрымалі магчымасць звацца рыцарамі.

Казкі, што склалі новую кнігу Кацярыны Хадасевіч-Лісавой, несумненна, прынясуць не толькі задавальненне ад чытання, але і вялікую карысць, таму што яны вучаць дабрыні, павазе да дарослых, шчырасці, выхоўваюць адказнасць і гатоўнасць прыйсці на дапамогу.

**Вольга КУХАРСКАЯ**

# «Дыямент да Вінчы»

**Ён — адзін з самых модных і вядомых расійскіх жывапісцаў сучаснасці, заслужаны мастак Расійскай Федэрацыі, акадэмік Расійскай акадэміі мастацтваў. Біяграфічны цэнтр Кембрыджа прысудзіў яму ганаровае званне «Жывая легенда». Нікас Сафронаў, знакаміты ва ўсім свеце мастак, прыляцеў у Мінск для прэзентацыі сваёй выстаўкі ў Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага.**

Экспазіцыі карцін Нікаса заўсёды становяцца яркай падзеяй культурнага жыцця. У 1995 годзе з вялікім поспехам прайшла выстаўка ў Стамбуле, а ў 1996 годзе — у Акадэміі мастацтваў Масквы, Музеі Марка Шагала ў Віцебску, у Бергама (Італія). Затым карціны ўбачылі ў Таронта, Рыме, Цюрыху, Нью-Ёрку, Санкт-Пецярбургу, Сочы, Рызе ды іншых гарадах свету. У 2005 годзе імя мастака з'яўляецца ў Сусветнай кнізе ведаў: за выбітны ўнёсак у сучаснае мастацтва Н. Сафронаў узнагароджаны «Дыяментам да Вінчы».

Асноўная частка яго работ знаходзіцца ў прыватных зборах і музеях многіх краін свету. Сярод прыхільнікаў творчасці мастака — Ала Пугачова, Сафі Ларэн, Ален Дэлон, Жан-Поль Бельмандо, П'ер Кардэн, Даяна Рос, Мадонна, Міхаіл Гарбачоў, Мікіта Міхалкоў, Стывен Спілберг, П'ер Рышар, Элізабэт Тэйлар, Рычард Гір, а таксама найбуйнейшыя менеджары і бізнесмены са спіса часопіса *Forbes*.



*«Прадчуванне алімпіяды, ці Палёт над Краснай палянай», 2013 г.*

У беларускай сталіцы работы майстра прадстаўлены ўпершыню. На выстаўцы — 100 жывапісных і графічных твораў розных жанраў: пейзажы, нацюрморты, партрэты, сюжэтныя сюррэалістычныя кампазіцыі. Гледачы змогуць ацаніць майстэрства Сафронава-партрэтыста. Экспануюцца партрэты акцёра Джоні Дэпа, балерыны Маі Плісецкай, галівудскага «каўбоя» Клінта Іствуда, французскай прыгажуні Сафі Марсо і многіх іншых вядомых асоб. Архітэктурныя пейзажы Нікаса заўсёды прасякнуты таямніцай, духам эпохі, які захаваўся ў каменных замках, лабірынтах прыступак, востраканцовых купалах веж. Дэманструюцца і найноўшыя работы мастака, прысвечаныя Алімпійскім гульням у Сочы. Асаблівую цікавасць выклікаюць карціны ў эксклюзіўным аўтарскім стылі *Dream vision* (перанос карцінкі са сноў на палатно), дзякуючы якому Нікас Сафронаў быў занесены ў кнігу рэкордаў Гінеса.

Падчас адкрыцця выстаўкі знакаміты жывапісец адзначыў, што з задавальненнем напіша партрэт трохразовай алімпійскай чэмпіёнкі і Героя Беларусі біятланісткі Дар'і Домрачавай. Пасля карціна будзе перададзена ў адзін з беларускіх музеяў як падарунак краіне. «Маляваць трэба асоб. Калі чалавек прафесіянал, тады ён мне цікавы. Калі чалавек здзейсніў нешта выбітнае, усё роўна, для якой краіны ён гэта зрабіў», — лічыць Нікас Сафронаў.

Акрамя таго, мастак разам з Антыкварнааўкцыённым домам «Paragis» вырашыў зрабіць беларусам сюрпрыз — напрыканцы выстаўкі арганізаваць продаж часткі палотнаў. Гэта будзе аўкцыён карцін, прысвечаных Чэмпіянату свету па хакеі-2014.

Пазнаёміцца з творчасцю Нікаса Сафронава жыхары і госці сталіцы змогуць да 5 мая.

**Таццяна ШЫМУК**

# Вясковы інтэлігент



Пра вясковага інтэлігента, мастака Тамашавіча са Смаргоншчыны чуў даўно, ад 1995 года, калі выйшла кніга выдатнага навукоўца-беларусіста Арсеня Ліса «Цяжкая дарога свабоды». Перагледаў творы жывапісца, што захоўваюцца ў фондах Смаргонскага гісторыка-краязнаўчага музея, і не здолеў абмінуць даты, якія прыпадаюць на сёлетнюю вясну.

Павел Фаміч Южык нарадзіўся якраз на «Казюкі» — дзень ушанавання апекуна ВКЛ Св. Казіміра, — 4 сакавіка 1874 года, у вёсцы Нова-Александрова (Вётхава). Нашчадак садоўнікаў, якія служылі ў князёў Агінскіх, атрымаў адукацыю ў прыходскай Міхневіцкай школе, пасля — у Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. Яшчэ да паступлення ў семінарыю быў знаёмы і захоплены Францам Сіўко, вядомым у смаргонскіх ваколіцах «багамазам». Пасля нядоўгай працы ў вёсках Сітцы ды Падброддзе паступіў у «Віленскую школу малюнка», якая на той час размяшчалася ў мурах былога Віленскага ўніверсітэта і мела два аддзяленні: жывапіснае і ўжытковага мастацтва.

Звыклы жыццёвы рытм студэнта, мастака і «галавы сям'і» (ажаніўся ў 1908 г.) парушыла Другая сусветная вайна. У статусе бежанца напрыканцы 1917 — пач. 1918 гг. паступіў у Пензенскае мастацкае вучылішча. Пра пензенскі перыяд Паўла Тамашавіча можна распавядаць шмат: мастацкая практыка ў шпіталі з хворымі на тыф, нядоўгая праца ў органах ВЧК, мастацкія пошукі, але… У 1921 годзе П. Южык рушыў на родную Смаргоншчыну, а потым трапіў у Вільню. Напачатку працаваў у «Рускім доме», з кастрычніка 1923 г. выкладаў маляванне ў славутай Віленскай беларускай гімназіі, якая аказала добры ўплыў на яго нацыянальнае светаўспрыманне.

Ужо на пенсіі, у 1930-я гг., мастак пераехаў разам з жонкай Марыяй Аляксееўнай на сталае месца жыхарства ў Вётхаў. Пабудаваў прасторны дом каля прыгожага лесу. І кожную раніцу ў палатняным, на гарадскі манер, гарнітуры з эцюднікам на плячы і маленькім зэдлікам пад пахай выпраўляўся «на натуру». Яму ўдаваліся сонечныя побытавыя кампазіцыі, партрэты вучняў ды суседзяў, імпрэсіяністычныя краявіды. У 1944 г. мастака не стала, а калекцыя яго работ, адабраная для персанальнай выстаўкі, незваротна знікла ў 1950-я.



**«Інтэр'ер»** (1930-я) — не самы выдатны твор майстра, але ён утрымоўвае «характарыстычныя» прыкметы, уласцівыя заходнебеларускай мастацкай плыні.

Выкананы ў цёплым каларыце, ці не ўпершыню з дакументальнай падрабязнасцю, праўдзіва візуалізуе фрагмент жытла беларускага селяніна, высвечвае стрыжань яго духоўнай існасці.

Кампазіцыйны цэнтр выявы акрэслены вертыкаллю, што ўтварае экзатычная расліна з сям'і тутавых, якая ў прыродзе налічвае да 1000 відаў. Фікус каўчуканосны — сэнсавае «верацяно» твора. Гэты ўраджэнец паўднёвых краін, завезены на землі ВКЛ яшчэ для аранжарэй Радзівілаў, не толькі ачышчае паветра і насычае яго кіслародам, але і сімвалізуе сямейнае шчасце, дабрабыт, сведчыць пра існаванне запаветнага раю для добрага гаспадара. Сусветнае дрэва сімвалізуе і бессмяротнасць, бясконцае адраджэнне. Знак хрысціянскай набожнасці гаспадара — абраз на чырвоным куце, ахінуты традыцыйным ручніком-набожнікам (багавікам), які ў народным светасузіранні азначае зямны шлях. Фіранка адасобівае прастору ўнутранага жыцця.Адкінутая бязважкая гардзіна на адчыненым акне, у глыбіні якога хвалюецца веснавы «букараўскі лес»…

**Сяргей ГВАЗДЗЁЎ,**
**фота з асабістага архіва аўтара**

# Па класіцы…

З 2 па 28 красавіка ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі праходзіць музычны фестываль «Мінская вясна-2014». Падчас форуму вядучыя музыканты з 10 краін свету правядуць 21 філарманічны канцэрт.

Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста краіны Аляксандра Анісімава прадставіць дзве праграмы, падрыхтаваныя сумесна з вядомымі замежнымі салістамі — кларнетыстам са Славеніі Дарка Брлекам (27 красавіка) і віяланчэлістам з Францыі Маркам Драбінскім (12 красавіка). Сёння ў Вялікай зале адбудзецца святкаванне 20-годдзя Польскага Інстытута. З нагоды юбілею разам з аркестрам і праграмай польскай музыкі XX стагоддзя выступяць выдатныя музыканты — дырыжор Павел Котля і піяніст Гаюш Кэнска.

Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Казінца прапануе прыхільнікам новую праграму "Песні Уладзіміра Мулявіна і Ігара Лучанка" (22 красавіка). Творы буйнейшых майстроў песеннага жанру праспяваюць маладыя зоркі беларускай эстрады Пётр Ялфімаў і Ян Жанчак.

18 красавіка Дзяржаўны камерны хор Беларусі (мастацкі кіраўнік — заслужаная артыстка краіны Наталля Міхайлава) сумесна з ансамблем «Камерныя салісты Мінска» пад кіраўніцтвам Дзмітрыя Зубава (Санкт-Пецярбург) выканаюць «Пакуты паводле Іаана» І. С. Баха. Гэты манументальны твор прагучыць у Мінску ўпершыню пасля 25-гадовага перапынку.

Адзін з найбольш вядомых філарманічных ансамбляў, фартэпіянны дуэт Наталля Котава — Валерый Баравікоў, адзначыць 15-гадовы юбілей сумеснай творчасці. У канцэрце «Duettissimo-гала» 24 красавіка ў Вялікай зале прагучаць лепшыя творы для фартэпіянных дуэтаў Іагана Штраўса, Іаганеса Брамса, Людвіга ван Бетховена, Астара П'яцолы, Аляксандра Скрабіна, Ігара Стравінскага, Альфрэда Шнітке ў транскрыпцыі і апрацоўцы Валерыя Баравікова.

Павіншаваць знакамітых беларусаў прыедуць ансамблі з-за мяжы — фартэпіянныя дуэты Людміла Зайцава — Уладзімір Флейман (Расія) і Анатоль Лапікус — Юрый Махавіч (Малдова).

Фальклорны напрамак у «Мінскай вясне-2014» 10 красавіка прадставіць Беларускі дзяржаўны ансамбль народнай музыкі «Свята» (мастацкі кіраўнік — заслужаны артыст Беларусі Анатоль Кашталапаў). Акрамя таго, 23 красавіка ў Вялікай зале выступіць фольк-гурт «Троіца» з нагоды 15-годдзя калектыву.

Аматараў камернай музыкі чакаюць выступленні Мінскага струннага квартэта (канцэрт-аўдыёвізіён 15 красавіка ў Малой зале, у якім прагучыць «Сем слоў Збавіцеля на крыжы» Франца Ёзафа Гайдна), Ансамбля салістаў «Класік-Авангард» (24 красавіка канцэрт «У краіне музычных цудаў» з удзелам юных зорак класічнай музыкі). Найцікавейшым абяцае быць чарговы канцэрт цыкла «Усе санаты Бетховена для скрыпкі і фартэпіяна» (23 красавіка), у праграме якога прагучыць знакамітая «Крэйцарава саната» ў выкананні заслужанага артыста Расіі Сцяпана Яковіча (скрыпка) і заслужанага артыста Беларусі Юрыя Гільдзюка (фартэпіяна).

З сольнымі канцэртамі выступяць айчынныя выканаўцы — лаўрэат міжнародных конкурсаў, фіналістка конкурсу для юных музыкантаў «Еўрабачанне-2012» Аляксандра Дзенісеня (цымбалы) і лаўрэат міжнародных конкурсаў Павел Шамшура (гітара), а таксама госці «Мінскай вясны-2014» — Кірыл Родзін (віяланчэль, Расія), Ана Гацэва (фартэпіяна, Македонія), Вазген Вартанян (фартэпіяна, Расія). Ёсць шанц пачуць Іаганеса Геферта (арган, Германія) — бліскучага віртуоза, глыбокага і тонкага інтэрпрэтатара арганнай спадчыны розных эпох. Выключную педальную тэхніку музыкант прадэманструе ў Мінску 16 красавіка.

У межах «Мінскай вясны-2014» па ініцыятыве выбітнага дзеяча беларускай выканальніцкай школы Мікалая Марэцкага пройдуць міжнародныя дні мандалінна-гітарнай музыкі «Mandolinissimo». У двух канцэртах (26 і 28 красавіка) возьмуць удзел знакамітыя выканаўцы: Наталля Корсак, Мікалай Марэцкі, Наталля Зміртовіч, Марына Слабодская, Сабіна Марзэ (Францыя), ансамбль мандалістаў «Экспрэсія», актэт балалаек «Віцебскія віртуозы».

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

# Творчасць як сродак



Сцэна са спектакля «Дон Жуан».

Фота з сайта www.kupalauski.by



Сцэна са спектакля «Дон Жуан».

27 сакавіка ва ўсім свеце адзначылі Міжнародны дзень тэатра — свята, якое ўжо амаль паўстагоддзя праходзіць пад дэвізам «Тэатр як сродак паразумення і ўмацавання міру паміж народамі». З гэтай нагоды ў многіх краінах праводзяцца тэатральныя фестывалі, святочныя пастаноўкі і паказы лепшых спектакляў. Тэатры Беларусі таксама падрыхтавалі арыгінальную праграму для сваіх гледачоў.

## ЛЕГЕНДАРНЫ РАСПУСНІК

У Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы адбылася прэм'ера спектакля «Дон Жуан» паводле Жана Батыста Мальера. Рэжысёр-пастаноўшчык — пецярбуржац Анатоль Праўдзін. Сцэнограф — знакаміты расійскі тэатральны мастак Аляксей Парай-Кошыц. Касцюмер — маладая беларуская мастачка Валянціна Праўдзіна. Пераклад з французскай мовы на беларускую здзейсніў Андрэй Хадановіч.

Прататыпам легендарнага Дона Жуана лічыцца прадстаўнік аднаго з арыстакратычных родаў Севільі дон Хуан Тэнорыа. Яго любоўныя і дуэльныя прыгоды доўга заставаліся беспакаранымі, пакуль ён не выкраў дачку камандора і не пазбавіў жыцця яго самога. Правасуддзе бяздзейнічала, таму пакараць дона Хуана вырашылі манахі-францысканцы. Ад імя маладой і прыгожай жанчыны прызначылі яму спатканне ў царкве, дзе быў пахаваны камандор, забілі яго там і распусцілі чуткі, што юрліўца адправіла ў пекла статуя камандора. Гэтая гісторыя змяшалася з іншымі і стала своеасаблівай легендай. Сюжэт распаўсюдзіўся па Еўропе і стаў асновай для многіх твораў. У тым ліку для дзёрзкай камедыі нораваў французскага драматурга Жана Батыста Мальера ў 1664 годзе.

Ролю Дона Жуана выконвае выдатны беларускі акцёр Павел Харланчук-Южакоў. Народны артыст Беларусі Віктар Манаеў паўстае ў вобразе Сганарэля, слугі легендарнага беззаконніка. У спектаклі таксама задзейнічаны народныя артысты Беларусі Міхалай Кірычэнка, Арнольд Памазан, заслужаныя артысты Аляксандр Падабед, Сяргей Краўчанка, артысты Святлана Анікей, Юлія Шпілеўская, Сяргей Рудзяня, Раман Падаляка, Аляксандр Малчанаў, Ганна Хітрык, Кацярына Алейнікава, Валянціна Гарцуева, Марына Гардзіёнак, Сяргей Чуб, Дзмітрый Есяневіч і інш.

Акцёры выступаюць у сучасных касцюмах, без аніякага намёку на гістарычную стылізацыю. Практычна для кожнага ўбору характэрныя выразныя лініі, мінімум аздаблення і сціплая колеравая гама. Толькі некаторыя ўпрыгожвае вышыўка — даніна павагі эпосе Мальера. Трэба адзначыць і відавочную гульню кантрастаў у касцюмах. Напрыклад, у адзенні Дона Жуана і яго світы прысутнічае спалучэнне чырвонага і чорнага колераў: джынсы, скураныя курткі і берцы. Тыя, хто супрацьстаіць ідэі галоўнага героя, выходзяць у касцюмах белых, блакітных і шэрых. Дзеянне містэрыі настолькі дынамічнае, што Павел Харланчук-Южакоў кардынальна мяняе вобраз проста на вачах у публікі — у яго практычна няма часу сысці за кулісы.

Дасведчаны крытык прапануе сваю ацэнку толькі пасля пятага-шостага паказу, але ўжо сёння можна адзначыць, што такога на сцэне Купалаўскага яшчэ не было!

## ЦЫГАНСКІЯ ЖАРСЦІ

Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр прадэманстраваў яркі спектакль Іагана Штраўса-сына «Цыганскі барон». Лірыка-рамантычная аперэта, адна з найбольш вядомых у творчасці аўстрыйскага кампазітара, была напісана ў 1885 г. Авеяная цыганскай рамантыкай, яна насычаная венгерскімі мелодыямі, рытмамі марша, вальса, полькі, чардаша і праз гэта набывае яркі жанравабытавы каларыт.

Кампазітар задумваў «Цыганскага барона» як камічную оперу, што абумовіла панаванне ў ёй сімфанічнага пачатку, наяўнасць разгорнутых арый, ансамбляў, хароў і фіналаў, а таксама некалькі плыняў вобразаў — гераічных, лірычных і камічных. У аснову аперэты замест вясёлай інтрыгі пакладзены сур'ёзны лірычны сюжэт пра каханне двараніна да цыганкі, уздымаюцца рамантычныя тэмы чалавечай годнасці, нацыянальнага гонару, свабодалюбства і ўсёпераможнага кахання.

Дзеянне адбываецца на мяжы Венгрыі і Румыніі, у Цемешвары, у канцы XVIII стагоддзя. Сувязі з замежнікамі прывялі да таго, што барон Барынкай быў выгнаны са сваёй зямлі. Праз 20 гадоў па патрабаванні новага губернатара, графа Аманая, сын Барынкая Сандар вяртаецца ў родны край і знаходзіць бацькоўскі замак у руінах. Новы гаспадар зямель Каламан Зупан катэгарычна не хоча развітвацца з маёмасцю. Да таго ж, занепакоены прысутнасцю цыганскага табара. А думкі яго занятыя заляцаннем каралеўскага суддзі Карнера да яго дачкі Арсены, якая закаханая ў беднага хлопца Отакара і мае намер выйсці замуж толькі за яго. З'яўленне спадчынніка Барынкая ў маёнтку перамяняе звыклы правінцыяльны лад жыцця венграў. Высакародны Сандар разам са сваім сябрам і слугой Стэфанам абараняе ўсіх безабаронных. Заключыўшы пагадненне з цыганамі, Барынкай закахаўся ў прыгажуню Сафі, дачку старой цыганкі Чыпры. Дзеля дзяўчыны герой гатовы ахвяраваць не толькі тытулам, але і свабодай. У рэшце рэшт дабро, справядлівасць і каханне перамагаюць.

На сцэне сталічнага тэатра музкамедыі спектакль з'яўляецца ў другі раз. У 1997 годзе аперэту, якая ішла цягам 10 гадоў, ужо ставіў Барыс Лагода. Аднак яго пастаноўка была зроблена ў эксцэнтрычнай, клаўнаднай манеры. Рэжысёр прынцыпова выкарыстаў рускае лібрэта Васіля Шкваркіна, у сувязі з чым музычны матэрыял быў толькі дадаткам да п'есы. Гэтым разам перад пастановачнай групай стаяла задача стварыць спектакль са зразумелым рускім лібрэта, ужо знаёмым гледачу, эфектнай харэаграфіяй і ўважлівым стаўленнем да партытуры Штраўса. Рэжысёр-пастаноўшчык Ганна

# І моладзь не саступае

Нашто — вось тут і цяпер — Маладзёжнаму тэатру спатрэбілася камедыя Карла Гальдоні «Веер», я адказаць не патраплю. Не сумная, але «бу-га-га» (паводле Мальера) не выклікае. Да таго, што нам моцна баліць сёння, не прастуе ані мастоў, ані кладак. Цнатлівую закаханасць сіньёра Эварыста, праз якую ён пасаромеўся падарыць сваёй абранніцы цэлы веер замест зламанага, сербануўшы нягод ды турбот, узорам для перайманне не назавеш. А калі б не пасаромеўся і падарыў — п'есы не было б.

Славутага «Слугу двух гаспадароў» ды «Карчмарку» Гальдоні стварыў у Венецыі, між поспехаў і скрутаў сцэнічнай рэформы ды ў баруканнях з Гоцы. «Веер» (1763—1765) штукаваўся ў Парыжы, куды рэфарматар Карла з'ехаў у 1762-м — далей ад венецыянскіх прыгод, бліжэй да мройных перамен.

У тэксце «Веера» няма падтэксту. Але, магчыма, вабнай для сённяшняга ўвасаблення паўстае дасціпная выштукаванасць камедыйнай драматургіі як сапраўднага механізму, якую славуты Джорджа Стрэлер параўнаў са швейцарскім гадзіннікам. «Веер» не адзін раз рабіўся іспытам на прафесійнасць, вымагаючы перадусім акцёрскага ансамбля. Апошні, як вядома, збіраецца па каліве, ладзіцца доўга, аднаўляецца цяжка, — шмат у якіх рэпертуарных тэатрах. У Маладзёжным таксама. Але дыхтоўная драматургія Гальдоні мабілізавала творчы арганізм.

Варштат на тры паверхі, усталяваны на сцэне, паўстае відавочным увасабленнем сацыяльнай лесвіцы падпарадкавання ды заступніцтва-спрыяння, пра якое па-французску скажам *le patronage*, а па-руску — *покровительство*. У цэнтры, натуральна, Граф ды Барон. Яны трымаюць іерархію і месцы (без якіх ані шэлега не вартыя, але ж ім нават шэлегаў бракуе!). Граф як аматар чытання і патрон наваколля задаволена фармулюе: «Мы, людзі заможныя, мусім бескарысліва дапамагаць адно аднаму!» Побач — упадабанак пляменніцы Кандзіды сіньёр Эварыста (Канстанцін Міхаленка); Кандзіда разам з цётухнай Джэртрудай (Раіса Сідорчык)

# міжнародных зносін



Сцэна са спектакля «Хітрыкі Ханумы».



Сцэна са спектакля «Цыганскі барон».



Сцэна са спектакля «Цыганскі барон».

Маторная дакладна прытрымлівалася канцэпцыі і партытуры кампазітара, здолела захаваць лірыка-рамантычную аснову аперэты і стварыць яркі і маляўнічы спектакль. У аснове лібрэта — навела венгерскага пісьменніка Мора Ёкаі «Сафі» пра каханне дваранiна да цыганкі.

Рэжысёр імкнецца да спалучэння рамантычнага і рэалістычнага пачаткаў у пастаноўцы, да аднаўлення характэрнага цыганска-венгерскага каларыту, знаёміць беларускага гледача з традыцыямі венграў і цыган, іх звычаямі і абрадамі. Напрыклад, першая карціна другога акта — «цыганская сюіта», якая акрамя арыгінальнага музычнага матэрыялу ўключае партытуры «Чардаш» В. Монці і цыганскую народную песню «Сонейка». У «Цыганскім бароне» вялікая роля належыць балету і хору. Практычна праз нумар выкарыстоўваюцца масавыя сцэны, у выніку на пляцоўцы адначасова знаходзяцца да 50 чалавек. Хоць спектакль і на рускай мове, у ім можна пачуць венгерскі і цыганскі дыялекты. Этнакаларыт надае і харэаграфія Аксаны Кімкетавай.

Для спектакля было падрыхтавана каля 200 касцюмаў: большасць з іх толькі выйшла са швейных цэхаў, а некаторыя ўзялі з іншых пастановак. Паводле мастака па касцюмах Любові Сідзельнікавай, пры іх стварэнні арыентаваліся на народнае мастацтва венграў. Нягледзячы на тое, што раней ужо даводзілася сутыкацца з этнічнымі спектаклямі, цяпер працаваць было складана. Касцюмы вельмі спецыфічныя: яркія ўборы з кантраснымі каляровымі спалучэннямі, не характэрнымі для беларускіх строяў. Толькі на адну цыганскую спадніцу пайшло 15 метраў тканіны!

За яскравую ігру ў спектаклі варта адзначыць Арцёма Хамічонка (Сандар Барынкай), Ірыну Заянчкоўскую (Чыпра), Наталлю Дзяменцьеву (Сафі), Віктара Цыркуновіча (Каламан Зупан), разынку пастаноўкі Вікторыю Жбанкову-Стрыганкову (Мірабэлла) і інш.

## ХАНУМА І ПАЎЛІНКА

Яркі і маляўнічы спектакль «Хітрыкі Ханумы» пра сваццю, якая ніколі не сумуе і вядомая незвычайнай прадпрымальнасцю, прадставіў Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага. Музычная камедыя грузінскага драматурга Авксенція Цагарэлі, музыка — Гіі Канчэлі ў пастаноўцы Сяргея Кавальчыка.

Дзеянне разгортваецца ў Тбілісі на пачатку дваццатага стагоддзя. Радавіты князь, прагуляўшы ўсе грошы, бачыць толькі адно выйсце: тэрмінова знайсці багатую нявесту. А заможны купец дзеля тытула гатовы сваю маладую прыгажуню дачку выдаць за князя. Сэрца ж дзяўчыны аддадзена яго беднаму пляменніку. І тут за справу бярэцца Ханума, дасведчаная сваццця. Спрытная і кемная галоўная гераіня пачынае гарэзлівае прадстаўленне: інтрыгуе, хітруе, стварае камічныя сітуацыі, прымушае ўсіх дзейнічаць згодна са сваім планам. У выніку на сцэне разыгрываецца яскравая камедыя.

У спектаклі занятыя народныя артысты Беларусі Вольга Клебановіч і Аляксандр Ткачонак, заслужаныя артысты Уладзімір Шэлестаў, Аксана Лясная, Эдуард Гарачы, артысты Эмілія Пранскутэ, Іна Савянкова, Аляксандр Вергуноў, Таццяна Баўкалава, Алена Пастрэвіч, Павел Еўтушэнка, Андрэй Сенькін, Юлія Кадушкевіч, Алег Коц і іншыя.

Адразу пасля прэм'еры «Хітрыкі Ханумы» ў НАДТ імя М. Горкага, па традыцыі з нагоды Міжнароднага дня тэатра, адбылася цырымонія ўручэння найстарэйшай тэатральнай прэміі Беларусі — «Крыштальнай Паўлінкі». Вышэйшай узнагародай Беларускага саюза тэатральных дзеячаў уганараваны народны артыст Беларусі, акцёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа Тадэвуш Кокштыс. Прызам «Крыштальны анёл» адзначаны заслужаны артыст Беларусі, акцёр Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек Аляксандр Казакоў. Узнагароду «Крыштальная зорка» атрымала рэжысёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага Валянціна Еранькова. Маладому артысту-вакалісту Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Аляксандру Гелаху ўручана «Крыштальная кветка» — прыз за самы яркі дэбют. Дырэктара Брэсцкага тэатра лялек Міхаіла Шавеля адзначылі ўзнагародай «Натхненне».

Дыпломы Беларускага саюза тэатральных дзеячаў атрымалі заслужаная артыстка Беларусі, майстар сцэны Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача Ларыса Горцава і майстар сцэны Брэсцкага акадэмічнага тэатра драмы імя Ленінскага камсамола Беларусі Віталь Варанковіч. Тэатральныя дзеячы таксама адзначаны спецыяльнымі ўзнагародамі Міністэрства культуры — нагруднымі знакамі «За ўклад у развіццё культуры Беларусі», ганаровымі граматамі і падзякамі, якія ўручыў міністр культуры Барыс Святлоў.

**Таццяна ШЫМУК**

як прыгожы пол месціцца вышэй. Гэта да пляменніцы звернута рэпліка пляткаркі Сузаны ў выкананні Наталлі Падвіцкай (яна не толькі прадала веер сіньёру Эварыста і падгледзела, каму ён яго перадаў, але і выснавала з гэтага вартую зваду!): «Мы, сумленныя дзяўчаты, мусім бескарысліва дапамагаць адна адной!» (То бок страчаная сумленнасць паўстане вострым аскепкам высакароднае пыхі.) На авансцэне — сялянка Джаніна (гэта на яе скіруе рэўнасць-падазронасць Кандзіда), слугі, майстры ды безназоўныя «чорныя плашчы» ў масках-баўтах разам з паненкамі. Іхнія танцы ды пластычныя дзеянні падрахоўваюць кожную сцэну і робяцца камертонам-уступам да наступнай (балетмайстар — Дзіна Юрчанка).

Падрабязнасці побыту са сцэны прыбраныя. Затое ў наяўнасці так званы восевы прадмет — веер, вакол якога сумленна круцяцца ўсе персанажы. Знакавая сутнасць гэтай рэчы зацерлася, згубілася з цягам часу. Яго можна інтэрпрэтаваць як чароўны кіёчак (прадмет), можна нават памяняць — хоць на кашалёк, хоць на капялюш (як у Эжэна Лабіша, напрыклад), бо ніякія асаблівыя ўласцівасці веера не ўплываюць на дзеянне і персанажаў. У спектаклі чырвоны з золатам веер, які вандруе па руках, кішэнях ды запазухах выканаўцаў, — яркі сімвал інтрыгі.

Пакуль выразным рэчытатывам цягнецца экспазіцыя, гэткая запаволеная опера на драматычнай сцэне, парадак сцэнічнага свету прыгожа змацаваны (мізансцэнічна). Персанажы прадстаўляюць адно аднаго, вызначаюцца ў занятках ды намерах, а сіньёра Кандзіда млява выпускае з рук веер, і ён ламаецца. Сіньёр Эварыста асцярожна падыме ўломак — і... завіруе імклівае дзеянне, якому гледачы на прэм'еры не паспявалі апладзіраваць: з гэткай імклівасцю трымай вуха востра, каб хоць не заблытацца ў тым, хто кім каму даводзіцца і што каму з гэтага будзе!

Маладыя ўсіх саслоўяў спрытна пакідаюць свае месцы, лётаюць, слізгаюць, пырхаюць па сходах ды драбінах; людзі сталага веку — Граф ды Барон — доўга трымаюцца за сваё (месца, перакананне, жаданне); кабеты у роспачы ды скрусе апынаюцца на адной прыступцы, а паненка-гераіня ды гандлярка, агорнутыя прыкрасцю і занятыя выкрыццём героя, рухаюцца сінхронна, аднолькава ўздымаючы рукі ўгору і падбіраючы спадніцы.

Далікатнай, але ўлоўнай ironіяй прасякнуты спектакль рэжысёра Уладзіміра Савіцкага. Ён адхіліў імправізацыі, скараціў сцэны і тэкст, але праз гэта не пацярпеў ні Гальдоні, ні сэнс спектакля. Персанажы апантана падглядаюць, падслухваюць, плёткараць, крыўдзяцца, блытаюць і блытаюцца. Іхняе багатае ўяўленне не заўжды ладзіць з рэчаіснасцю, брак інфармацыі змушае дадумваць, памыляцца і прымаць пажаданае за існае... Напрыклад (паводле драматурга), Графу замінаюць чытаць, і ён накідваецца то на шаўца, то на карчмара: маўляў, годзе грукаць ды бразгаць! Тыя апраўдваюцца неабходнасцю, але магчымасці грукаць ды бразгаць іх пазбавіў рэжысёр. Няйначай, разлікі ды звады шкодзяць графскаму чытанню...

Але артыстам яшчэ бракуе наіўнай веры ў гульню, якая дапускае вокамгненную перамену настрояў, перакананняў, прынцыпаў, смешную дзівакаватую ўпартасць, што прагне ўсё падначаліць, перападначаліць і перарабіць на свой лад; бракуе лёгкасці пасоўвання «на цырлах» — прыўзнята-камедыйна, амаль балетна. Не так хутка і выбухова, як вымагае Гальдоні, дасягаюць належнага градуса сцэнічныя жарсці. Але ў сцэнах, дзе моладзь не саступае этыкету і правілам, рэжысёр вылучае добрыя пачуцці і здаровы розум. Вылучае ненавязліва і пераможна — яны бяруць верх. Не разлік або выгада, а добрыя пачуцці і здаровы розум персанажаў вядуць рэй у спектаклі Маладзёжнага тэатра!

Я там штосьці сцвярджала пра масты і кладкі, якія ад Гальдоні да нас не дацягваюцца? Ат! Я памылялася.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

# З часоў Візантыі...

**Нацыянальны мастацкі музей Беларусі прэзентаваў грандыёзны выставачны праект «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі», арганізаваны ААТ «Белгазпрамбанк» сумесна з ААТ «Газпром трансгаз Беларусь» і Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь.**

Арганізатары ўзялі за мэту паказаць мастацтва нашай краіны як жывы і бесперапынны працэс, інтэграваны ў сусветную мастацкую прастору. На працягу чатырох месяцаў жыхары і госці сталіцы змогуць пазнаёміцца з выдатнымі ўзорамі беларускага мастацтва: з часоў Візантыі да сучаснасці! Колькасць экспанатаў набліжаецца да пяці соцень, многія з якіх прайшлі экспертны адбор, рэстаўрацыйныя работы і дэманструюцца шырокай публіцы ўпершыню. У праекце ўдзельнічаюць практычна ўсе музеі краіны, у тым ліку рэгіянальныя, а таксама прыватныя калекцыянеры і карпаратыўныя калекцыі.

Перлінамі экспазіцыі па праве лічацца новыя набыткі Белгазпрамбанка. Упершыню гледачы ўбачаць кнігу Сімяона Полацкага «Жазло праўлення» 1667 года выдання, карціны Марка Шагала, створаныя ў перыяд росквіту творчасці вялікага мастака, і інш.

Спецыяльна для выстаўкі «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі» толькі ў дзень яе адкрыцця была прадстаўлена найвялікшая духоўная праваслаўная святыня Беларусі — Крыж Еўфрасінні Полацкай. Напрастольны крыж, зроблены майстрам Лазарам Богшам у 1161 г. па заказе прападобнай Еўфрасінні для Спаскага манастыра ў Полацку, утрымліваў часцінкі мошчаў святых. Аснова крыжа, вырабленая з кіпарысавага дрэва і аблкадзеная залатымі і сярэбранымі пласцінамі, была аздоблена каштоўнымі камянямі, жэмчугам, абразкамі нябесных заступнікаў. Пры загадкавых абставінах у першыя дні Вялікай Айчыннай вайны артэфакт знік. У 1992 г. падчас святкавання 1000-годдзя Полацкай епархіі было вырашана ўзнавіць святыню. Праца была даручана брэсцкаму мастакуювеліру Мікалаю Кузьмічу, які засвоіў складаную тэхніку перагародкавай эмалі. Працэс доўжыўся пяць гадоў, пры гэтым выкарыстоўваліся такія ж матэрыялы і тэхніка, што і некалі Лазарам Богшам.

На выстаўцы ўпершыню дэманструецца карціна Хаіма Суціна «Ева», набытая на аўкцыёне *Sotheby's*. Варта нагадаць, што ў Беларусі, на гістарычнай радзіме Суціна, да нядаўняга часу не было ніводнага яго палатна. У 2012 годзе Белгазпрамбанк набыў работу мастака «Вялікія лугі ў Шартры ля віядука», якую можна было ўбачыць у межах арт-праекта «Мастакі Парыжскай школы з Беларусі». Карціна «Ева», напісаная ў 1928 годзе, стала другім каштоўным набыткам. Партрэты пэндзля Хаіма Суціна аб'ядноўвае імкненне разгадаць таямніцу персанажа, перадаць яго псіхалагічны стан у моманты глыбокага роздуму, адчаю.

Чым вызначаюцца працы, сама асоба Суціна? Гэтае пытанне і сёння не дае спакою ні мастацтвазнаўцам, ні наведвальнікам аўкцыёнаў, ні шырокай публіцы. Куратар выстаўкі «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі» Уладзімір Шчасны мяркуе:

— Галоўная каштоўнасць яго работ — колеры, якія ён выкарыстоўваў для адлюстравання прыроды альбо людзей. На постсавецкай прасторы ёсць толькі адна работа Суціна — аўтапартрэт (у Эрмітажы). Таму для Белгазпрамбанка вельмі важна было набыць карціну «Ева», якая павысіла ўзровень карпаратыўнай калекцыі. Акрамя таго, гэтая работа, бадай, самая дарагая ў Беларусі і цікавая тым, што належыць лепшаму перыяду творчасці Хаіма Суціна.

Сярод іншых экспанатаў выстаўкі асаблівую ўвагу варта надаць карціне выбітнага мастака эпохі рамантызму Валенція Ваньковіча «Партрэт Тамаша Зана». Гэта адзіная работа жывапісца, якая сёння вернута на гістарычную Радзіму. У Беларусі, дзе таленавіты мастак стварыў вялікую частку сваіх палотнаў, дагэтуль не было ні адной сапраўднай карціны майстра. Творчая спадчына Ваньковіча была вывезена ў іншыя краіны або згублена ў гады сусветных войнаў.

У працы над праектам «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі» ўзялі ўдзел 15 даследчыкаў мастацтва і культуры, высокапрафесійныя музейныя супрацоўнікі і культуролагі, лепшыя дызайнеры з Беларусі, Літвы і Расіі. Да выстаўкі выдадзены каталог на трох мовах і яго мультымедыйная версія, даступная любому наведвальніку, падрыхтаваны аўдыягіды для індывідуальнага і сямейнага наведвання.

**Таццяна ШЫМУК**



*Хаім Суцін «Ева», 1928 г.*



*Валенцій Ваньковіч «Партрэт Тамаша Зана», 1839 г.*



*Марк Шагал «Зялёны пейзаж», 1948 — 1950 гг.*

# Думкі пад «камуфляжам»

**Кожнаму з нас хоць раз у жыцці даводзілася апранаць розныя маскі і акружаць сябе своеасаблівым «панцырам». Час ад часу гэтага патрабуе і грамадства, і само жыццё, упэўнены прафесар Мастацкага ўніверсітэта ў Познані, Універсітэта Мікалая Каперніка ў Торуні, вядомы польскі мастак Міраслаў Паўлоўскі. У сталічнай Акадэміі мастацтваў адкрылася яго 61-я персанальная выстаўка графікі «Камуфляж».**

Назва выстаўкі міжволі асацыіруецца з ваеннай тэматыкай, але насамрэч карціны Міраслава Паўлоўскага не маюць з ёй нічога агульнага. Незвычайнымі работамі мастак дае асабісты каментарый сучаснасці, якая нярэдка патрабуе ад чалавека хаваць ад іншых свае «я», індывідуальнасць, зліваецца з масай.

— «Героі» маёй графікі — твар ці вочы, закрытыя рукой, — своеасаблівыя маскі. Дзякуючы адпаведным камп'ютарным праграмам я лічбава згенерыраваў постаць, «чалавека ўніверсальнага»: ён выглядае як сапраўдны, а на самой справе — ілюзія. Штучныя кібермаскі пачалі жыць уласным жыццём, сталі патэнцыяльным вобразам кожнага з нас, — тлумачыць сваю ідэю аўтар.

Творчасць Міраслава Паўлоўскага нельга разумець імгненна: трэба пільна разглядаць, удумвацца. Унікальнасць выстаўкі заключаецца ў работах, выкананых пры дапамозе ўнікальнай тэхнікі УФ-друку на алюмініевых пласцінах. Тут няшмат колераў і фарбаў, але дастаткова цікавых дэталяў і адценняў.

— Часам мне здаецца, што праца над цыклам работ «Камуфляж» вядзе мяне да апалогіі малюнка як такога: мы не памятаем ні месяцаў, ні людзей, але памятаем малюнак, які раней ці пазней размываецца, — заўважае Міраслаў Паўлоўскі.

Тых, каго цікавіць арыгінальнае, сучаснае і філасофскае, выстаўка не пакіне абыякавым.

**Марыя ГАЛУБЦОВА**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-97-09
крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-97-09
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2551.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 03.04.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1472.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
14014
ISSN 0024-4686
9770024468001